● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

20 ліпеня 1996 г. субота, № 183 (22986)

# ЗВЯЗДА



### ... ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Запазычанасць па заработнай плаце працаўнікам сельскай гаспадаркі нарастае

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, у пытанні з выплатай заработнай платы існуе пэўная даволі сумная дынаміка.**

Студзень: не выплацілі заробку два прадпрыемствы ў Гомельскай вобласці, сума доўгу — 118 мільёнаў рублёў. Люты: да Гомельскай вобласці, дзе такіх прадпрыемстваў стала дванаццаць, дабавіліся яшчэ Мінская — 7 прадпрыемстваў, Магілёўская — 5, Брэсцкая — 7, Гродзенская — 1. Сума доўгу склала 1 мільярд 894 мільёны. У сакавіку ўжо 242 прадпрыемствы не выплацілі заробку, запазычыўшы 18 мільярдаў 105 мільёнаў. У красавіку — 839 прадпрыемстваў — 76 мільярдаў 893 мільёны, у маі — 1598 — 206 мільярдаў 800 мільёнаў. Па стану на 12 ліпеня 1996 года калгасы і саўгасы, што знаходзяцца ў камунальнай уласнасці, запазычылі па заработнай плаце 303 мільярды 810 мільёнаў! А ўсяго па сельскай гаспадарцы лічба склала 314 мільярдаў 246 мільёнаў. Уражвае, пагадзіцеся. Асабліва, калі ўлічыць, што ў сярэднім заработная плата працуючых у гэтай галіне не перавышае мільёна рублёў.

Як лічыць намеснік начальніка ўпраўлення працы і заработнай платы Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Вольга Мікалаеўна Шахрай, трэба глядзець на сітуацыю з запазычанасцю праз прызму кожнага канкрэтнага калгаса ці саўгаса. Дзякуючы мерам, прынятым урадам, па тым, каб надаць заработнай плаце статус першапачатковага плацяжу, нейкія грошы (у межах мінімальнага спажывецкага бюджэту) працаўнікам сельскай гаспадаркі ўсё ж плацяць. Сума ж запазычанасці застаецца вялізнай. Чаму так адбываецца? «Уся справа ў тым, — зазначыла Вольга Шахрай, — што з прадпрыемствамі сельскай гаспадаркі не своечасова разлічваюцца прадпрыемствы перапрацоўчай галіны. І бываюць нават такія выпадкі, калі сума запазычанасці асобных калгасаў па заработнай плаце роўная суме доўгу гэтым гаспадаркам з боку, напрыклад, мясакамбіната. Асноўная прычына, на мой погляд, менавіта такая. Ну, і не трэба забывацца пра спад вытворчасці.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## «Форд мотарз кампані» на Беларусі: паехалі...

**Як паведамляла наша газета, некалькі дзён таму ва ўрачыстай цырымоніі быў дадзены сапраўдны старт дзейнасці кампаніі «Форд» у нашай рэспубліцы.**

Праца пачалася, канешне, значна раней, — і з боку беларускага ўрада, калі былі падпісаны ўсе неабходныя дакументы, і з боку акцыянернага таварыства «Белпрампраект», які распрацаваў гэта будаўніцтва. Актыўны ўдзел прыняла таксама кампанія «Лада ОМС» і, безумоўна, прадстаўнікі «Форд мотарз». Усе мы памятаем, якая разгарэлася спрэчка наконт пляцоўкі ў Абчаку, дзе і была перарэзана зараз чырвоная стужачка. Вельмі прыемна, што тэндэр на права праводзіць будаўніцтва аўтазборачнага завода фірмы «Форд» у цяжкай барацьбе выйграла беларускае акцыянернае прадпрыемства «Мінскрамбуд».

«Мы спадзяёмся, — зазначыў на ўрачыстай цырымоніі прадстаўнік фірмы «Форд» Лен Мінн, — што гэта толькі пачатак, пачатак вялікага супрацоўніцтва нашай фірмы з Беларуссю. І я з нецярпеннем, як і ўсе, буду чакаць таго імгнення, калі роўна праз год з самых сучасных канвеерных ліній сыдуць першыя сабраныя ў Беларусі машыны маркі «Форд».

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## Знаёмцеся! Мы — Беларусь!

**Неўзабаве ў Раўбічах пройдзе своеасаблівы з'езд моладзі свету, арганізаваны «Маладой грамадой».**

На яго з'едуцца прадстаўнікі 35 краін, сярод якіх удзельнікі з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Венгрыі, Швецыі, Германіі і іншых.

Гэтая сустрэча робіцца на ўзор аналагічнай, што прайшла ў мінулым годзе ў Літве. Мэта яе — пазнаёміць моладзь з усяго свету з Беларуссю. Дзеля гэтага маюць адбыцца разнастайныя лекцыі — па гісторыі і гісторыі культуры Беларусі (Н. Зайцава), гісторыі мастацтва Беларусі (Т. Шунейка), праблемах меншасцей, рэлігійных канфесій і дэмакратыі (А. Сідарэвіч); чакаюцца таксама экскурсіі па Мінску, у Мір, Нясвіж.

Арганізатары спадзяюцца, што, калі з'езд пройдзе як мае быць, ён стане традыцыйным — год у Літве, год у Беларусі. Хацелася б верыць, што будзе сапраўды так. Зычым поспехаў!

**Яна САВІЦКАЯ.**

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:
# «КАЛІ ЗАГУБІМ ВЁСКУ, ЗАГУБІМ НАЦЫЮ»

**Большую частку дня 18 ліпеня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка правёў у гаспадарках Віцебскай вобласці. Адной з мэт яго паездкі было вырашэнне сацыяльных пытанняў вёскі і, у прыватнасці, будаўніцтва жылля.**

**Некалькі месяцаў таму кіраўнік дзяржавы выступіў з ініцыятывай ажыццявіць у адной з вёсак эксперыментальную забудову, якая магла б стаць своеасаблівым узорам сельскага домабудавання. Выбар выпаў на вёску Дуброва, што размешчана на тэрыторыі калгаса імя Энгельса Гарадоцкага раёна.**

**Усяго за два месяцы на яе ўскраіне вырасла дзесяць камфартабельных дамоў сядзібнага тыпу з гаспадарчымі пабудовамі. Прычым пры іх будаўніцтве былі выкарыстаны матэрыялы толькі айчыннай вытворчасці і цэлы шэраг новых тэхналогій, што здольны зрабіць узвядзенне жылля больш танным.**



У вёсцы Дуброва Аляксандр Лукашэнка ацэньваў не толькі пабудаваныя ўжо дамы, але і дэталёва вывучаў канструкцыі, з якіх яны складаюцца, прадстаўленыя асобна. З кіраўнікамі шэрага міністэрстваў, прадстаўнікамі мясцовых уладаў, спецыялістамі, якія прысутнічалі тут, Прэзідэнт абмяркоўваў перспектывы «тыражавання» такіх дамоў, якія хутка акупляюцца за кошт таннасці і эканоміі цяпла.

— Галоўнае, для чаго было задумана гэта будаўніцтва — канкрэтна вызначыцца: што, як і па якіх цэнах мы можам сёння будаваць, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Мяне могуць папракнуць, што, маўляў, учыніў тут паказуху. Але я не той чалавек: любую паказуху не прымаю арганічна. Я ўпэўнены, што такія вось дамы або некалькі іншыя будуць будавацца па ўсёй рэспубліцы, і не горшай якасці. Мы дадзім, напрыклад, чатыры варыянты праектаў узвядзення жылля. Адзін дом, дапусцім, будзе каштаваць 800 мільёнаў рублёў, другі — 600, трэці — 400, чацвёрты будзе яшчэ больш танны. Няхай кожны глядзіць, выбірае і, зыходзячы са сваіх матэрыяльных магчымасцей, будуе. Галоўнае, устанавіць дакладныя цэны на такія дамы, да чаго мы ўжо і падышлі. І будаўнікі будуць абавязаны будаваць дамы менавіта па такіх цэнах, я гэта вазьму пад асабісты кантроль.

Як вобразна адзначыў Прэзідэнт, у кожнага такога дома ёсць «чатыры фінансавыя вуглы». Першы — гэта грошы самога чалавека, які будзе там жыць. Хоць бы 10 працэнтаў — на шпалеры, на люстру, на плітку, на ўкладку падлог, — на ўсё, што не патрабуе спецыяльных будаўнічых навыкаў. Другі «вугал» — субсідыі, якія складаюць, як прадугледжана пастановай урада, да 75 працэнтаў кошту дома. Але выдавацца гэтыя субсідыі будуць па пэўных крытэрыях і тым, у каго не было свайго жылля, каму не было чаго прыватызаваць. Усякія злоўжыванні тут будуць выключаны. Трэцім «вуглом» Прэзідэнт назваў ільготны крэдыт на 20 гадоў пад 5 працэнтаў. «Згодна з маім указам такі крэдыт пачалі ўжо выдаваць, — растлумачыў Аляксандр Лукашэнка. — Нядаўна я павялічыў фінансаванне на гэтыя мэты да 2 трыльёнаў рублёў. Але ёсць нормы, перавысіць якія я не магу. Усё залежыць ад таго, колькі вы сваіх грошай пакладзяце ў банк, каб іх можна было ўзяць і даць іншаму чалавеку ў якасці крэдыту. Можна, вядома, за мяжой папрасіць, але яны проста так не даюць. Можна напячатаць больш грошай, але гэта тут жа прывядзе да рэзкага павышэння цэн у магазіне. Таму будзем зыходзіць з рэальных магчымасцей. Я ж не кажу, што мы кожнаму чалавеку да 2000 года дадзім кватэру. Мы дадзім вам напрамак дзейнасці».

А чацвёрты «вугал» гэтага дома — самі гаспадаркі, якія павінны ўзяць частку затрат па будаўніцтву дома на сябе. Гэта, у сваю чаргу, дасць магчымасць кіраўнікам гаспадарак заключаць з будучымі ўладальнікамі дамоў яшчэ да пачатку будаўніцтва дагаворы, якія прадугледжваюць, што на працягу пэўных гадоў чалавек, які атрымаў кватэру, павінен дакладна выконваць указаныя ў дагаворы абавязацельствы. Гэта дапаможа дысцыплінаваць работнікаў, выпрацаваць у іх пачуццё адказнасці. Да таго ж, і кіраўнікі гаспадаркі, і ўладальнік будучага дома будуць самі кантраляваць яго будаўніцтва і сачыць за якасцю работ.

У той жа дзень Прэзідэнт агледзеў невялікі ўчастак «эксперыментальнай» дарогі ў калгасе «Новае жыццё», а потым адправіўся ў саўгас «Рудакова» Віцебскага раёна. Сустракаючыся з мясцовым кіраўніцтвам і насельніцтвам, Аляксандр Лукашэнка і тут удзяліў вялікую ўвагу сацыяльным пытанням. Што ж датычыць вытворчай сферы, ён адзначыў, што са свайго боку зробіць усё, каб раз у два гады кожная гаспадарка атрымлівала з дапамогай дзяржавы адзін камбайн і кожны год — па аднаму трактару. Гэта акрамя таго, што могуць дазволіць сабе самі гаспадаркі. Акрамя таго, кіраўнік дзяржавы парэкамендаваў кіраўнікам саўгаса «Рудакова» купіць хоць бы адзін новы трактар МТЗ-21-12, які вельмі эканамічны ў рабоце і адпавядае сусветным стандартам. Аднак выкарыстанне такіх трактароў, выпуск якіх знаходзіцца пад асабістым кантролем Прэзідэнта, патрабуе дакладнай арганізацыі працы механізатараў. Зрэшты, паводле яго пераканання, неабходна ў корані мяняць адносіны да працы ва ўсёй сельскагаспадарчай вытворчасці. «Усюды павінен быць гаспадар», — падкрэсліў Прэзідэнт. — Патрэбны НЭП, як я кажу, а калі расшыфраваць — навядзенне элементарнага парадку».

Ва ўсіх гаспадарках, якія наведаў Аляксандр Лукашэнка на Віцебшчыне, яго сустракалі не толькі хлебам-соллю і кветкамі, але і самымі вострымі пытаннямі, якія не прамінулі задаць кіраўніку краіны мясцовыя жыхары. Ды і сам Прэзідэнт прасіў людзей задаваць любыя пытанні, цікавіўся самымі надзённымі іх клопатамі. У гэтых гутарках ён яшчэ раз закрануў праблему раздзялення ўлады ў рэспубліцы. Абмяркоўвалася і выказаная Аляксандрам Лукашэнкам ідэя аб правядзенні рэферэндуму, адным з пытанняў якога будуць змяненні ў Канстытуцыі, неабходныя для больш дакладнага вызначэння паўнамоцтваў Прэзідэнта. У гэтым людзі гатовы падтрымаць кіраўніка дзяржавы. Што датычыць яшчэ аднаго пытання маючага адбыцца рэферэндуму — перадачы ў прыватную ўласнасць сельгасугоддзяў, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што тут для яго надзвычай важная думка народа. Хоць сам Прэзідэнт лічыць, што пакуль што рана аддаваць зямлю ў прыватную ўласнасць. Пакуль што яшчэ не навучыліся нашы людзі па-сапраўднаму цаніць адзінае багацце Беларусі — яе зямельныя ўгоддзі. Аднак — слова за народам, падкрэсліў Прэзідэнт. Акрамя таго, напярэдадні рэферэндуму пройдзе вялікая дыскусія ў прэсе і на тэлебачанні, каб людзі не прымалі неабдуманыя рашэнні.

На пытанне, якое датычыць росту цэн, Аляксандр Лукашэнка адказаў, што многае тут, на жаль, залежыць не толькі ад Беларусі. Галоўная прычына — у пастаянным падаражэнні расійскай сыравіны і энергарэсурсаў. І на гэты працэс мы зрабіць уплыў ніяк не можам. Аднак без падтрымкі вёска не застанецца, паабяцаў Прэзідэнт. «Калі загубім вёску, загубім нацыю», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**

## 600 кілаграмаў збожжа на кожнага беларуса

**Разам з гомельскімі хлебаробамі, якія ўжо некалькі дзён шчыруюць на ўборцы сёлетняга ўраджаю, да работ далучыліся калгасы і саўгасы Брэстчыны. У прыватнасці, гаспадаркамі аднаго з паўднёвых раёнаў — Пінскага — ужо нарыхтаваны першыя сотні тон збожжа.**

Як сведчаць папярэднія даныя Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, у цэлым ураджай (за выключэннем тых плошчаў, што пацярпелі ад засухі, замаразкаў і дажджоў) сфарміраваўся на 10—15 працэнтаў вашэй папярэдняга года. Гэта дазволіць сабраць прыкладна па 600 кілаграмаў збожжа на кожнага жыхара краіны, што зноў жа больш мінулагодняга паказчыка. Разам з тым, як зазначыў у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення раслінаводства Мінсельгасхарчу Вячаслаў Герасімовіч, ёсць участкі, дзе ўраджайнасць мяркуецца на ўзроўні 5—7 цэнтнераў збожжа з гектара (у Гомельскай, Брэсцкай, Мінскай абласцях). Такія плошчы будуць убірацца ў першую чаргу і пераважна на кармавыя мэты.

Чакаецца, што пры выкарыстанні на 80 працэнтаў магутнасцей камбайнавага парка (ёсць шмат старых машын) у цэлым па краіне можна будзе штодзень убіраць 110—115 тысяч гектараў збожжавых і зернебабовых.

Як падкрэсліў Герасімовіч, для таго, каб без перашкод правесці сёлетнія работы па ўборцы ўраджаю, хлебаробам патрэбна было б 1,5 трыльёна рублёў. Зразумела, такіх сродкаў вёсцы дзяржава сёння даць не можа. На набыццё паліва, запчастак, правядзенне рамонтных работ урадам выдзелена 160 млрд. рублёў, з якіх 40 млрд. — па лізінгу на набыццё тэхнікі. 120 млрд. рублёў вяскоўцам абяцаюць даць пад разлікі за здадзенае збожжа.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### АДНЫМ СКАЗАМ

❑ **Знешнегандлёвы абарот** у Беларусі за першыя чатыры месяцы гэтага года склаў **4 мільярды долараў,** з якіх на краіны СНД прыйшлося **2,6 млрд. долараў** (на Расію — 2,1 млрд. долараў), на краіны далёкага замежжа — 1,4 млрд. долараў.

❑ **Даходы насельніцтва** ў першым паўгоддзі, па словах прэм'ер-міністра рэспублікі, **скараціліся** ў параўнанні з аналагічным перыядам 1995 года на 3 працэнты.

❑ У першым паўгоддзі **было рэалізавана прадукцыі** 83,75 працэнта ад выработленага.

❑ **Беспрацоўе** ў Беларусі складае **каля трох працэнтаў** ад усяго працаздольнага насельніцтва.

❑ **865** масавых бібліятэк, **977** клубных устаноў, **3136** кінаўстановак — існаванне іх за апошнія 5 гадоў было спынена ў рэспубліцы.

❑ З пачатку года было **прыведзена ў выкананне** 19 прыгавораў, якія прадугледжвалі вышэйшую меру пакарання.

❑ **Інвестыцыі банкаў** у статутныя фонды іншых юрыдычных асобаў выраслі з 17,7 да 54,4 млрд. рублёў.

❑ Уладальнікі хатніх жывёл ва ўсім свеце трацяць **толькі на корм** для сваіх любімцаў 22 млрд. долараў.

❑ У практыцы міжнароднай статыстыкі **сям'я лічыцца беднай**, калі яна расходуе на харчаванне больш за 50 працэнтаў свайго бюджэту.

❑ Міністэрства юстыцыі зарэгістравала **новую грамадскую арганізацыю** — беларускае сацыяльна-экалагічнае аб'яднанне «Зялёны свет».

## РАБОТНІКАМ МЕТАЛУРГІЧНАЙ ГАЛІНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Сардэчна віншую рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых галіны з прафесіянальным святам — Днём металурга.

Металургічная галіна, з'яўляючыся адной з самых маладых у прамысловасці рэспублікі, сёння займае важнае месца ў эканоміцы нашай дзяржавы. Ад яе работы ў многім залежыць уздым і развіццё прамысловасці, у першую чаргу прадпрыемстваў машынабудавання і металаапрацоўкі, дасягненне эканамічнага суверэнітэту рэспублікі.

Працуючы ў складаных умовах эканамічных пераўтварэнняў, у галіне паспяхова рэалізуюцца праграмы тэхнічнага пераўзбраення, асвойваецца выпуск новых канкурэнтаздольных відаў вырабаў. Прадукцыя беларускай металургіі набывае ўсё большую вядомасць на рынках многіх краін свету.

Паспяховая работа металургаў у многім забяспечваецца добрасумленнай працай калектываў прадпрыемстваў Дзяржаўнага аб'яднання «Белутармет».

Выказваю ўпэўненасць, што працоўныя калектывы металургаў і іх сумежнікі захаваюць і памножаць дасягнутыя рубяжы, сваёй працай унясуць дастойны ўклад у развіццё эканомікі нашай рэспублікі.

У дзень прафесіянальнага свята жадаю вам моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вашай высакароднай мужнай працы.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь**
**М. М. ЧЫГІР.**

## Ф. КОЛІНЗ НАВЕДАЎ МІНСК

**18 ліпеня адбыўся афіцыйны візіт у Мінск пасла па спецыяльных даручэннях ЗША ў краінах СНД Джэймса Ф. Колінза.**

Падводзячы вынікі візіту на Беларусь на прэс-канферэнцыі для журналістаў, Джэймс Колінз паведаміў, што падчас яго сустрэч з прадстаўнікамі ўлады нашай краіны абмяркоўваліся два пытанні: развіццё двухбаковых адносінаў, асабліва ў галіне эканомікі, і спосабы ўмацавання бяспекі ў Еўропе. Па першаму пытанню былі абмеркаваны ўжо дзеючыя сумесныя праекты (у прыватнасці, з кампаніяй «Форд»), а таксама перспектыўныя. Напрыклад, стварэнне структуры, якая б забяспечвала надзейныя асновы развіцця двухбаковых адносінаў, садзейнічала б іх удакладненню. Джэймс Колінз паведаміў, што пазнаёміў прадстаўнікоў афіцыйных колаў Рэспублікі Беларусь з меркаваннем кіраўніцтва Амерыкі, якімі павінны быць умовы на Беларусі, каб заахвоціць замежных інвестараў. Падчас візіту спецыяльнага пасла было падпісана двухбаковае пагадненне аб дапамозе.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ЗДАРЭННІ*

## ПАДВЯЛІ ПАРЭНЧЫ...

Жыхар дома нумар 10 на вуліцы Волаха ў Мінску М., трыццаці сямі гадоў, пагодлівым надвячоркам выйшаў на балкон пакурыць і... не вярнуўся. І праявіла тут свае сілы і здольнасці не нячыстая сіла, а звычайная наша людская нядбайнасць. Парэнчы, на якія абапёрся курэц, аказаліся непрымацаванымі да сцяны, заржавелі, і ён галавой уніз рухнуў з трэцяга паверха на асфальт. Абвінавачваць гаспадара ў нядбайнасці нявaрта: ажаніўшыся (другі раз), ён пасяліўся ў гэтым доме нядаўна, яшчэ быў не прапісаны. А вось жыллёва-камунальная гаспадарка заслугоўвае папроку. Балконныя пліты з паўночнага боку вільготныя, пакрыты цвіллю, падвальнае памяшканне захламлена. У гэтым пераконваешся, не спускаючыся нават у яго нетры, а зазірнуўшы ў падвальныя ямы пад вокнамі.

**Аляксандр ДЗЕРАВЯНКА.**



# П. Краўчанка патлумачыў паслам сутнасць ініцыятывы аб бяз'ядзернай зоне

**19 ліпеня старшыня пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах Пятро Краўчанка сустрэўся з пасламі замежных краін, акрэдытаванымі ў Мінску. Прычына сустрэчы — неабходнасць растлумачыць дыпламатам сутнасць ініцыятывы па стварэнню бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай Еўропе, вылучанай у «Звароце Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да парламентаў і народаў Еўропы», што быў прыняты 11 ліпеня гэтага года.**

У сваім ўступным слове Пятро Краўчанка расказаў аб перадгісторыі гэтай ініцыятывы, заначыўшы, што ўпершыню яна прагучала з вуснаў міністра замежных спраў Польшчы Рапацкага яшчэ ў часы міжблокавага процістаяння ў Еўропе, потым, у 1990 годзе, з трыбуны ААН яе выказваў сам П. Краўчанка, але на той час яна не магла быць рэальнай, насіла хутчэй рамантычны характар. П. Краўчанка зазначыў, што гэтая прапанова не з'яўляецца штучнай, яна ўвасабляе ў сабе волю беларускага народа, магутны імператыў яго шматпакутнай гісторыі. У пэўным сэнсе да гэтай ініцыятывы вяла і папярэдняя палітыка Беларусі, якая выявілася ў абвяшчэнні стратэгічных мэтаў бяз'ядзернасці і нейтралітэту ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, у падпісанні і ратыфікацыі дагавора СТАРТ і Лісабонскага пратакола, што азначала добраахвотнае адмаўленне нашай краіны ад патэнцыяльнай магчымасці захаваць ядзерны статус.

— Ва ўмовах расшырэння НАТО на Усход узнікаюць тэарэтычныя прадпасылкі для распаўсюджвання ядзернай зброі ў суседнія краіны. Мы не хацелі б перабольшваць гэтую пагрозу, але не можам і выключаць. Наш зварот мае прэвентыўны характар, мы вельмі хацелі б, каб суседнія дзяржавы яшчэ раз прааналізавалі тэхналогію сваёй інтэграцыі ў НАТО,— заявіў П. Краўчанка перад замежнымі пасламі. — Мы таксама хацелі б, каб на тэрыторыі суседніх краін не было замежных войскаў. Мы безумоўна паважаем правы вашых народаў, а вылучаем толькі ідэю, якая, на наш погляд, мае перспектывы.

Патлумачыў Пятро Краўчанка і сутнасць магчымых перспектыў гэтай ідэі. Парламент Беларусі хацеў бы, каб выканаўчая ўлада краіны правяла перагаворы па падпісанню шырокамаштабнай міжнароднай канвенцыі аб стварэнні бяз'ядзернай зоны ў цэнтры Еўропы, каб перш за ўсё да яе далучыліся краіны-суседзі Беларусі, а пазней і іншыя дзяржавы Цэнтральнай Еўропы, і каб пяць вялікіх ядзерных краін свету выступілі ў якасці гарантаў гэтай канвенцыі, ў сваю чаргу абавязаўшыся ніколі не размяшчаць на гэтай тэрыторыі ядзерную зброю.

Тым не менш нават Беларусь, ініцыятар такой канвенцыі, на сёння не змагла б яе падпісаць, бо на нашай тэрыторыі пакуль знаходзіцца яшчэ 18 расійскіх ядзерных ракет «Таполяў». Пасла Ізраіля ў прыватнасці зацікавіла, ці будуць своечасова выкананы абавязацельствы па вываду гэтых ракет. П. Краўчанка зазначыў, што пэўная занепакоенасць на гэты конт у яго была ў пачатку 1996 года, пасля вядомай заявы расійскага камандуючага Ракетнымі войкамі стратэгічнага прызначэння Есіна, але цяпер, пасля выступлення А. Лукашэнкі 3 ліпеня, які таксама выказаўся за бяз'ядзерную зону ў цэнтры Еўропы, і станоўчага адказу выканаўчай улады на дэпутацкі запыт з камісіі па міжнародных справах беларускага парламента, П. Краўчанка ўпэўнены, што нам удасца пазбавіцца ад ядзернай зброі да канца 1996 года. Дарэчы, паслоў зацікавіла, як суадносяцца прэзідэнцкая і парламенцкая ініцыятывы на адну і тую ж тэму, што мае больш высокі ўзровень. П. Краўчанка патлумачыў, што тут няма ніякай супярэчнасці: ідэя гэтая была ініцыіравана ў парламенце, дзе яе разглядалі яшчэ з вясны і толькі з-за фракцыйных рознагалоссяў не змаглі прыняць гэты Зварот у чэрвені. На думку П. Краўчанкі, А. Лукашэнка сваёй заявай выказаў падтрымку ідэі парламентарыяў.

На заканчэнне размовы П. Краўчанка зрабіў вельмі сімптаматычную заяву замежным паслам: ён зазначыў, што нягледзячы на парламенцкія канікулы, Вярхоўны Савет функцыяніруе, пастаянна дзейнічае яго прэзідыум, працуе на месцы і Старшыня Вярхоўнага Савета, а дэпутаты, якія раз'ехаліся, могуць у любы час сабрацца на сесію.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## РАДЫЁ 101,2: ЦІКАВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ, ВЫДАТНАЯ МУЗЫКА

**21 ліпеня спаўняецца год з дня выхаду ў эфір першай перадачы Радыё 101,2.**

Год назад у гэты ж дзень Мінск упершыню пачуў пакуль адзіную ў Беларусі незалежную музычна-інфармацыйную радыёстанцыю, што вяшчае на беларускай мове. Сёння час яе вяшчання складае 13 гадзін — з 7.00 да 20.00.

Слухайце Радыё 101,2 у дзень яго нараджэння! Вам прадставяць парад аўтарскіх праграм, магчыма — конкурсы і прызы для слухачоў. Як заўсёды, вас чакае шмат цікавай інфармацыі і выдатнай музыкі.

Мы, са свайго боку, віншуем нашых калег, зычым ім добрага настрою, удзячных слухачоў і спаўнення жаданняў. З днём нараджэння!

**Яна САВІЦКАЯ.**

## РАЗДЗЕЛЫ ЧЫРВОНАЙ КНІГІ ДАПОЎНЕНЫ

**Арнітолагі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта завяршылі падрыхтоўку кадастра рэдкіх птушак і тых, што знаходзяцца пад пагрозай знішчэння. Ён уключае ў сябе матэрыялы аб 56 асобінах і рэкамендацыі па забеспячэнню іх аховы ў 576 месцах знаходжання.**

Работа гэта праведзена аднačасова са стварэннем сеткі ахоўваемых прыродных тэрыторый Беларускага Паазер'я, якое таксама падыходзіць да заканчэння. Такім чынам, рэдкія птушкі трапляюць не толькі ў Чырвоную кнігу, але і ў месцы, дзе іх будуць зберагаць. Лясніцтвы атрымалі заданні па складанню схемы гнездаванняў драпежных птушак, а таксама чорнага бусла, дуплагнездзікаў. Вызначаны масівы, на якія распаўсюджваецца рэжым арніталагічнага заказніка.

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.02 | 21.27 | 16.25 |
| Віцебск – | 4.46 | 21.24 | 16.38 |
| Магілёў – | 4.52 | 20.17 | 16.25 |
| Гомель – | 4.58 | 21.45 | 16.07 |
| Гродна – | 5.20 | 21.40 | 16.20 |
| Брэст – | 5.28 | 21.34 | 16.06 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 15 ліпеня.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Фамы**

**К. Маргарыты, Чэслава-святара**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па Беларусі воблачна з праясненнямі, кароткачасовыя дажджы з навальніцамі. Тэмпература паветра ў Віцебску 15—17, Магілёве, Гомелі, Мінску 16—18, Гродне і Брэсце 17—19 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак неба воблачнае з праясненнямі і крыху пацяплее: уначы 7—12, а ўдзень 21-га 15—20, 22-га — 18—23 вышэй нуля.

# У Сувораўскім вучылішчы — «аншлаг» абітурыентаў

**Закончаны прыём заяў ад жадаючых паступіць у Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча. Сёлета ў гэтай навучальнай установе набор ажыццяўляецца адразу ў два класы — у 7-ы і 8-ы. У 1997 годзе будзе весціся набор у 6-ы і 7-ы класы, а з 1998 года Мінскае СВВ выйдзе на шасцігадовы тэрмін навучання.**

У гэтым годзе знаходзіць практычнае ажыццяўленне Указ Прэзідэнта РБ «Аб далейшым развіцці Мінскага суворaўскага ваеннага вучылішча», дзе вызначана, што права паступлення па-за конкурсам прадастаўляецца дзецям ваеннаслужачых, асоб кіраўніцкага і радавога саставу МУС, якія загінулі, памерлі, прапалі без звестак ці сталі інвалідамі пры выкананні службовых абавязкаў, а таксама, згодна з Указам, пераважнае права паступлення маюць дзеці-сіроты, якія засталіся без бацькоў ці без аднаго з іх і дзеці з мнагадзетных малазабяспечаных сем'яў. Менавіта ад гэтых катэгорый грамадзян паступілі сёлета сотні заяў.

«Усяго ў гэтым годзе ў ваенкаматы рэспублікі паступіла 2153 заявы, — паведаміў начальнік аддзела ваеннай адукацыі Міністэрства абароны палкоўнік Сяргей Лаўшук, — сярод іх — 660 льготнікаў, а гэта ўжо азначае конкурс 3 чалавекі на месца».

У жніўні адабраныя ваенкаматамі кандыдаты ўжо ў вучылішчы пройдуць медыцынскі агляд, праверку фізічнай падрыхтоўкі, прафесіянальна-псіхалагічны агляд, і будуць здаваць экзамены (пісьмовы па матэматыцы і пісьмовы па рускай ці беларускай мове на выбар).

**Сяргей ВЕРАШЧАК,**
**прэс-служба Мінабароны РБ.**

### Удакладненне

У артыкуле «Стрэлы на дарозе» («Звязда» за 19 ліпеня) дапушчана тэхнічная недакладнасць. Сказ у пятым абзацы трэба чытаць так: «Адзначу, што органамі пракуратуры толькі ў 2 выпадках прызнана неправамерным прымяненне зброі».

*СІТУАЦЫЯ*

# «ЖАБРАК» НА ГАСРАЗЛІКУ

## 3 жыцця прадпрыемства, якое, спыніўшы работу на адны суткі, можа ператварыць 300-тысячны горад у вялізную смеццевую звалку

На грані спынення апынулася Гродзенская спецаўтагаспадарка, якая вывозіць смецце з жылых дамоў і прадпрыемстваў горада. Сітуацыя ва ўмовах сённяшніх эканамічных парадкаў тыповая — безграшоўе. Жыллёвыя рамонтна-эксплуатацыйныя ўпраўленні завінаваціліся аўтагаспадарцы каля 1,6 мільярда рублёў. Яшчэ прыкладна 400 мільёнаў складае доўг заводаў, магазінаў і іншых арганізацый, прычым не толькі дзяржаўных, але і камерцыйных. Няма за што купіць запчасткі. Добра, калі нейкі даўжнік разлічыцца коламі. Большасць аўтамабіляў па прычыне свайго ўзросту, як кажуць, дыхае на ладан, але і тых не хапае, паколькі апошнюю машыну набылі чатыры гады назад. Адзінае, што з горам папалам удаецца (пакуль), дык гэта «выбіць» грошы на зарплату (у сярэднім яна складае 1 мільён 300 тысяч рублёў) і бензін.

Яшчэ за савецкім часам спецаўтагаспадарка набыла статус гасразліковай. Гэта значыць, што яна ні капейкі не атрымлівае з бюджэту, ажыццяўляючы ўсе разлікі непасрэдна са сваімі кліентамі. Калісьці такая сістэма спрацоўвала больш-менш нармальна. Цяпер жа ад яе — хіба што «галаўны боль». Бо які толк ад гэтага гасразліку, калі твой кліент такі ж самы «жабрак», як і ты? Адмовіцца ад яго, абслугоўваць толькі тых, хто плаціць, немагчыма, бо літаральна праз суткі 300-тысячны горад стане нагадваць вялізную смеццевую звалку. Можна ўявіць, што тады адбудзецца — паніка, званкі, скаргі... І зусім не выключана, што ў некаторых злосных неплацельшчыкаў адразу знойдуцца грошы. Вось калі гэтыя плацяжы стануць першачарговымі! Аднак пакуль да такога «эксперыменту» не даходзіла. Хаця можа здарыцца, што іншага выйсця проста не будзе.

Зрэшты, як гаворыцца, пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца. Пры гэтым яшчэ пытанне, чаго нам сёння не хапае больш: фінансаў ці жадання навесці элементарны парадак? Скажам, ужо даўно гаворыцца пра будаўніцтва кантэйнерных пляцовак для збору смецця, каб аблегчыць працу вадзіцеляў — вынік практычна нулявы. Колькі не просіць спецаўтагаспадарка ўзгадніць з ёй праект новабудоўлі, каб былі зручныя пад'язныя шляхі — і гэта немагчыма. Асвятленне існуючых кантэйнерных пляцовак, неабходнае вадзіцелю зімой, калі рана цямнее — таксама невырашальная праблема.

Але самае безвыходнае становішча склалася ў дамах прыватнага сектара. На вываз смецця сёння заключана каля 300 дагавораў. Для абласнога цэнтра лічба, мякка кажучы, смешная. У выніку атрымліваецца, што на законных падставах пазбавіцца ад свайго смецця маюць права толькі гэтыя 300 дамоў. Астатнія альбо скідваюць яго ў размешчаныя непадалёк кантэйнеры бясплатна, альбо забруджваюць навакольныя адхоны. Хаця не скажаш, што дагавор са спецаўтагаспадаркай занадта дорага каштуе. Па сённяшніх расцэнках, кожнаму жыльцу прыватнага дома трэба заплаціць 8 тысяч рублёў у квартал. Такім чынам, калі сям'я налічвае 4 чалавекі, хопіць 32 тысяч рублёў, каб быў парадак і тое-сёе перападала ў касу «жабрака» на гасразліку. Спецаўтагаспадарка ўжо прапаноўвала жыллёва-камунальнай службе зрабіць гэтыя плацяжы абавязковымі, а калі хто адмовіцца ад заключэння дагавора — прадугледзець адпаведныя штрафныя санкцыі. Але нешта не атрымалася.

Таксама безвынікова завяршылася і спроба аднаго дэпутата навесці парадак у прыватным сектары пасёлка Паўднёвы, дзе лічаныя людзі заключылі дагавор на вываз смецця. Пасля візіту дэпутата ў спецаўтагаспадарку быў намечаны сход жыльцоў, аднак з'явіліся на яго, здаецца, 4 чалавекі. На гэтым усё і заглухла. Што ж, можна і далей узірацца на горы смецця пад уласным носам. Толькі б не «патануць» у ім канчаткова і не дайшло б, крый Божа, да якой-небудзь эпідэміі.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ЖЫЛЛЁ ПАЎСЮЛЬ У ЦАНЕ

*Апошнім часам у рэспубліканскім друку праходзіла шмат інфармацыі па цэнах на кватэры ў гарадах Беларусі. А колькі каштуе жыллё за мяжой?*

**Уладзімір ПІНЧУК,** *г. Мінск.*

Цэны на жыллё ў краінах усяго свету поўнасцю залежаць ад узроўню жыцця на іх тэрыторыі. Трэба адзначыць агульную ў апошні час для ўсіх краін тэндэнцыю: насельніцтва імкнецца набываць не шматпакаёвыя кватэры, а менавіта асабнякі.

Двухпавярховы катэдж у Фларыдзе (ЗША) каштуе каля 100 тысяч долараў. У той жа час у Нью-Йорку за такія грошы можна набыць толькі двухпакаёвую кватэру.

Сціплы катэдж на Атлантычным узбярэжжы Партугаліі каштуе не менш 140 тысяч долараў.

У сталіцы Венгрыі Будапешце аднапакаёвая кватэра каштуе дзесьці 25 тысяч долараў, двухпакаёвая — 30—35 тысяч у той жа валюце, трохпакаёвая — ад 40 тысяч і вышэй. Катэджы ў залежнасці ад узроўню і набліжанасці да сталіцы каштуюць ад 30 тысяч да 100 тысяч долараў.

Адрозніваецца сваім параўнальна невысокім коштам жыллё ў нашых суседзяў — літоўцаў. Двухпакаёвая кватэра ў сталіцы каштуе 15—20 тысяч долараў, у Каўнасе — 10 тысяч. Асабнякі ў Літве каштуюць 20—60 тысяч долараў.

Двухпакаёвая кватэра ў самай прыгожай сталіцы Еўропы Празе ацэньваецца ў 30 тысяч долараў, трохпакаёвая — каля 45 тысяч долараў. Двухпавярховы катэдж з садзікам у Празе каштуе дзесьці 200—250 тысяч долараў.

Добрая трохпакаёвая кватэра ў сталіцы Славеніі каштуе ўжо 25—30 тысяч долараў, катэдж у прыгарадзе Браціславы — 40—100 тысяч долараў.

За акіянам, у Канадзе, цэны на жыллё таксама не надта ўжо высокія. Пяціпакаёвая кватэра з месцам у падземным гаражы ў сталіцы каштуе нават менш, чым у Мінску — 78 тысяч долараў. Кошт добрага асабняка — 150—300 тысяч долараў ЗША.

## ЯК ЗДАЦЬ КВАТЭРУ ПА ЗАКОНУ?

*Так атрымалася, што ў мяне ёсць кватэра, якую можна здаць у наём. Каму яе лепш здаваць: арганізацыі ці прыватным асобам? Кажуць, што па закону ў гэтым выпадку трэба плаціць падаткі. Падкажыце, колькі?*

**Ірына САЗАНОВІЧ,** *г. Мінск.*

Пры выбары кватарантаў гаспадара кватэры часцей за ўсё хвалюе пытанне іх плацежаздольнасці, а не статусу. Аднак ў Мінску і вобласці памеры і парадак уплаты падаходнага падатку розныя ў залежнасці ад таго, каму прадастаўляецца кватэра ў наём — грамадзянскай ці юрыдычнай асобе. Калі вы, Ірына, вырашылі здаць кватэру прыватным асобам, то будзеце абавязаны плаціць падатак у цвёрдых сумах. Пры здачы жылля ў наём на год трэба заплаціць: за аднапакаёвую кватэру 12 мінімальных заработных плат (МЗП); за двухпакаёвую — 24 МЗП, за трохпакаёвую — 36 мінімальных зарплат. Калі кватэра здаецца юрыдычнай асобе, падаходны падатак ўтрымліваецца па стаўках артыкула 14 закона РБ «Аб падаходным падатку з грамадзян» нарастаючым сумам у крыніцы выплат з усёй сумы грашовых сродкаў, якія выплачваюцца арэндадаўцу.

Праўда, многія гаспадары не жадаюць плаціць падаткі. У гэтым выпадку падатковая інспекцыя мае права спагнаць з вас неабходную суму з налічэннем пені і фінансавых санкцый у памеры 10 працэнтаў ад аб'ёму падаткаў. Таму юрысты раяць у адзін голас: правільнае афармленне і своечасовая ўплата падаткаў дасць магчымасць вам пазбегнуць любых непрыемнасцей з кватэрай.

## ПРАВА НА ЛЬГОТНУЮ ПЕНСІЮ

*Ці мае права мой муж на льготную пенсію ў 55 гадоў. Ён працаваў мулярам у будаўнічай арганізацыі з 1964 года па 1978-ы.*

**ПІСКУНОВА В. К.,** *г. Мсціслаўль.*

Пастановамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 снежня 1992 г. № 772 і ад 29 верасня 1993 г. № 650 ўведзены змены і дапаўненні ў спіс прафесій са шкоднымі і цяжкімі ўмовамі працы, якія даюць права на льготную пенсію. У гэты спіс унесена прафесія муляраў, занятых на работах у брыгадах муляраў і ў спецыяльных звеннях муляраў комплексных брыгад.

У сувязі з тым, што гэта прафесія раней адсутнічала ў спісе прафесій № 1 і № 2, якія давалі права на льготную пенсію, то адпаведна стаж на льготную пенсію вашаму мужу ідзе з моманту прыняцця названай вышэй пастановы, г. зн. са снежня 1992 года. Такім чынам, права на льготную пенсію ён за працу ў названы вамі перыяд не мае.

## ХТО ДАПАМОЖА ПРАДПРЫМАЛЬНІКУ?

*Ці існуюць на Беларусі, як у Расіі, для жадаючых заняцца прадпрымальніцтвам фонды падтрымкі малога прадпрымальніцтва і інфармацыйна-аналітычныя цэнтры, а таксама банкі, якія атрымалі для падтрымкі малых прадпрыемстваў вытворчага і інавацыйнага накірунку крэдыты ад ЕБРР?*

**НЕСЦЕРАЎ Л.,** *г. Маладзечна.*

У цяперашні час у Рэспубліцы Беларусь створаны і дзейнічае Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў. Фонд з'яўляецца дзяржаўна-грамадскай арганізацыяй і створаны для фінансавання мерапрыемстваў і праграм па стварэнню ў рэспубліцы новых і развіццю дзеючых форм прадпрымальніцтва.

У рэспубліцы таксама створаны і дзейнічаюць цэнтры па падтрымцы прадпрымальніцтва. Цэнтры аказваюць садзейнічанне ў атрыманні фінансавых і матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, інфармацыйных, метадычных і кансультацыйных паслуг і аказваюць іншае садзейнічанне ў здзяйсненні прадпрымальніцкай дзейнасці.

Пастановай Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне Рэспублікі Беларусь ад 31 сакавіка 1994 г. зацверджаны парадак выдачы пазык беспрацоўным грамадзянам для займання прадпрымальніцкай дзейнасцю са сродкаў Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці. Вось у гэтыя арганізацыі і можа звяртацца прадпрымальнік па дапамогу ў сваёй дзейнасці.

## ВОЛЬНЫ ДЗЕНЬ НЕ ТОЛЬКІ МАЦІ, АЛЕ І БАЦЬКУ

*У нашым Лагойскім РАА вольны дзень прадаставілі, але яго не аплачваюць.*

*Скажыце, калі ласка, ці адносяцца жанчыны-настаўніцы да маці, якія маюць права на гэту льготу? Калі адносяцца, то як павінна весціся аплата гэтага дня? А то ў бухгалтэрыі нашага РАА гэтага не ведаюць.*

**АНКУДА Л. Э.,** *Лагойскі раён, в. Янушкавічы.*

У адпаведнасці з пастановай КМ РБ ад 15.12.1995 г. № 691 вольны ад работы дзень у тыдзень прадастаўляецца:

- маці, якія выхоўваюць траіх і больш дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў;
- адзінокім маці, разведзеным жанчынам і ўдовам, якія не знаходзяцца ў шлюбе і выхоўваюць дваіх і больш дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў;
- бацькам, якія выхоўваюць без маці дваіх і больш дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама жанчынам, пад апекай ці апекаваннем якіх знаходзяцца двое і больш дзяцей-сірот, якія засталіся без апекавання бацькоў, ва ўзросце да 16 гадоў.

Вольны дзень прадастаўляецца пры ўмове, што ўказаныя асобы працуюць поўны рабочы тыдзень і дзеці выхоўваюцца і пражываюць у сям'і.

Аплата праводзіцца ў памеры сярэднямесячнага заробку за фактычна адпрацаваны час у гэтым месяцы за кошт сродкаў наймальніка.

## МАГЧЫМА, НЕКАЛІ І АДМЕНЯЦЬ ЦІ ПАШЫРАЦЬ 50-КІЛАМЕТРОВУЮ ЗОНУ

*Калі ад аўтавакзала да твайго населенага пункта 50 і больш кіламетраў, то такі маршрут лічыцца міжгароднім, і пенсіянеры павінны аплачваць поўны кошт за праезд. У той жа час на прыгарадных аўтобусах яны маюць 50-працэнтную скідку. Чаму такія няроўныя ўмовы?*

**Казімір ЛУБНЕЎСКІ,** *г. Вілейка.*

Адказ на гэта пытанне, які даслаў у рэдакцыю начальнік Упраўлення аўтамабільнага транспарту Міністэрства транспарту і камунікацый В. Міленькі, відаць, зацікавіць і іншых нашых чытачоў, што жывуць у па-за 50-кіламетровай зоне:

— У адпаведнасці з дзеючым Статутам аўтамабільнага транспарту, зацверджаным пастановай урада, да прыгарадных аднесены перавозкі, якія ажыццяўляюцца за межы горада (іншага населенага пункта) на адлегласць да 50 кіламетраў уключна, да міжгародніх — больш за 50 км. Пры гэтым, у адрозненне ад прыгарадных, міжгароднія маршруты не маюць датацый з бюджэту, знаходзяцца на самаакупнасці і таму кошт праезду на іх некалькі вышэйшы, а льготы абмежаваныя.

Тым не менш міністэрствам, з улікам паступаючых прапаноў, падрыхтавана новая рэдакцыя Статута, у якой прадугледжаны змяненні па крытэрыях аднясення маршрутаў да прыгарадных або міжгародніх. Пры зацвярджэнні новай рэдакцыі Статута ўрадам магчымы ўдакладненні па льготнаму праезду, і яны будуць даведзены да ведама насельніцтва праз сродкі масавай інфармацыі.

## КАГО РЫХТУЕ ВАЕННАЯ АКАДЭМІЯ

*Чуў, што ў Беларусі ёсць Ваенная акадэмія. Але вось каго яна рыхтуе і якія трэба здаваць экзамены, не ведаю. Раскажыце.*

**Аляксей БЯЛЯЕЎ, 16 гадоў,** *г. Мінск.*

У гэтым годзе акадэмія рыхтуе камандзіраў падраздзяленняў для мотастралковых, танкавых, паветрана-дэсантных, інжынерных, аўтамабільных, унутраных, пагранічных войскаў, падраздзяленняў тылавога забеспячэння, артылерыі і афіцэраў-псіхолагаў з тэрмінам навучання 4 гады. На год больш вядзецца навучанне ваенных інжынераў для ракетных войскаў і артылерыі, войскаў сувязі процівапаветранай абароны, ваенна-паветраных сіл і лётчыкаў. У акадэмію прымаюцца грамадзяне Беларусі ва ўзросце з 17 да 21 года.

Для паступаючых на інжынерныя і лётныя спецыяльнасці з тэрмінам навучання 5 гадоў трэба здаваць экзамены па матэматыцы (пісьмова); фізіцы (вусна); рускай (беларускай) мове (ізлажэнне). На камандныя спецыяльнасці (навучанне 4 гады) — матэматыка і фізіка (вусна) і ізлажэнне; на тылавыя спецыяльнасці — матэматыка, хімія (вусна), ізлажэнне; на спецыяльнасць інжынер-псіхолах — па гісторыі Айчыны і матэматыцы (вусна) і экзамен па рускай (беларускай) мове.

Без экзаменаў у акадэмію залічваюцца выпускнікі Сувораўскага ваеннага вучылішча ў год яго заканчэння, студэнты, якія закончылі першы ці наступны курсы грамадзянскіх і ваенных ВНУ па спецыяльнасці, што адпавядаюць профілю акадэміі.

## КАМПЕНСАЦЫЮ ПА ЎКЛАДАХ ВЕТЭРАНАЎ МОЖНА АТРЫМАЦЬ ПА ДАВЕДЦЫ

*Чула, што «Беларусбанк» пачаў прыём заяў на налічэнне кампенсацый па ўкладах ветэранаў вайны. Мае грошы ляжалі ў ашчадбанку 25 гадоў, але ў жніўні 1993 года я іх зняла без кампенсацыі. Тады забралі і ашчадную кніжку. Адкажыце, магу я атрымаць кампенсацыю ці не?*

**КАЛАДЗІНСКАЯ В.,** *г. Скідаль, Гродзенская вобл.*

У «Беларусбанку» нам адказалі, што кампенсацыя налічваецца, калі ўклад ляжаў на кніжцы хоць бы да 1 студзеня 1992 года. Валянціна Пятроўна, вы таксама можаце атрымаць кампенсацыю, бо ў вас грошы на ўкладзе ляжалі і ў 1993 годзе. Не вельмі страшна, што ў вас забралі ашчадную кніжку. Калі вы звернецеся ў аддзяленне ашчадбанка, дзе ляжалі вашы грошы, кніжку знойдуць і на гэтай падставе вам выдадуць даведку. Прад'явіўшы гэтую даведку і іншыя дакументы ў «Беларусьбанк», вы атрымаеце абяцаную кампенсацыю.

## ШПІЯНАЖ ЯК СПОСАБ СПАСЦІЖЭННЯ ЖЫЦЦЯ

*Я літаральна зачытваюся раманамі славутага англійскага пісьменніка Грэма Грына. Вось дзе сапраўднае мастацтва! Не ідзе ні ў якое параўнанне з тымі таннымі дэтэктывамі, якімі завалены кніжныя латкі на вуліцах і ў падземных пераходах горада. Аднак нядаўна я прачытаў у адной газеце, што Грын і сам быў шпіёнам. Ці так гэта?*

**А. ТАМАШЭВІЧ,** *г. Мінск.*

Сапраўды, Грэм Грын працяглы час працаваў агентам брытанскай разведкі. У 1941 годзе, адразу пасля таго, як ён атрымаў адукацыю агента, Грына накіроўваюць працаваць у Сьера-Леоне. Свой уласны парадкавы нумар 59200 пазней ён перадае ў спадчыну герою рамана «Наш чалавек у Гаване». У розны час яму даводзілася працаваць супраць Германіі і Францыі. Аднак Грын не адрозніваўся асаблівай удачлівасцю, ды і якасцямі легендарнага суайчынніка Джэймса Бонда не валодаў. Працаваў Грын у 70-х гадах у Кітаі, Гаване і Маскве. Цікавы наступны факт з яго біяграфіі: аднойчы, каб атрымаць бясплатную паездку ў Маскву, Грын уступіў у камуністычную партыю. Аднак паездку прыйшлося адмяніць, і праз два тыдні партыйнага жыцця агент 59200 пазбаўляецца непатрэбнага яму членства. Наогул шпіянаж для Грына быў хутчэй хобі, чым працай. Спосабам спасціжэння жыцця.

## ВЫТВОРЧЫ БРАК — НЕ ПЕРАШКОДА

*Мне адмовілі ў абмене тэлефоннай карткі — на адваротным яе баку размазалася фарба. Хіба ж гэта справядліва?*

**Андрэй Сяргеевіч КАТЛЯРОЎ,** *г. Мінск.*

Безумоўна, не. Як паведаміў намеснік дырэктара рэспубліканскага аб'яднання «Белтэлеком» Мікалай Крукоўскі, пластыкавыя тэлефонныя карткі могуць не прыняць толькі пры ўмове яе пашкоджання: калі картачка зламаная ці відавочныя сляды спроб вымання модуля. Размазаная фарба — вытворчы брак і перашкодай для абмену карткі быць не можа. Так што «качайце» свае правы, спасылаючыся на гэтую заметку.

## ЦІ ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ ЛЕПШЫ БАНК?

*Мы з сям'ёй сабралі крыху долараў ЗША і хочам іх пакласці ў які-небудзь мінскі банк. Не ведаем, які з іх лепшы. Якія патрэбны дакументы, каб пакласці грошы на дэпазіт, калі мы не мясцовыя?*

**Сям'я ГРАЧОВЫХ,** *г. Клецк.*

Вызначаць, які банк лепшы, а які горшы, справа няўдзячная. У некага — вялікія працэнты стаўкі, у некага — лепшыя ўмовы абслугоўвання кліентаў ці дадатковыя паслугі. Ацаніць крытэрыі выгаднасці ці надзейнасці банкаў цяпер вельмі цяжка. Аднак у любым выпадку ёсць некалькі правілаў, якіх трэба прытрымлівацца. Па-першае: нявартa безагаворачна верыць таму банку, у якога самыя вялікія працэнты стаўкі. Спачатку трэба ўважліва вывучыць тэкст дагавора, ці не аказжацца, што банк можа змяніць стаўкі ў аднабаковым парадку. Але і гэта не самае страшнае. Як правіла, масіраваную рэкламу і падазрона выгадныя ўмовы праводзяць і прапануюць тыя банкі, якім да поўнага банкруцтва рукой падаць. Напэўна, парада «давярай стабільным і ўмераным банкам» вам падыдзе лепш за ўсё.

Каб адкрыць валютны дэпазіт, вам дастаткова ўзяць у Мінск пашпарт і, натуральна, валюту. Калі вы з'яўляецеся грамадзянінам Беларусі, можаце карыстацца банкаўскімі паслугамі ў поўным аб'ёме. А вось які банк выбраць — рашаць толькі вам.

## КАЛІ ПРАЦОЎНАЕ ПРАВА ПАРУШАНА

*Паважаная рэдакцыя!*

*Прашу вас адказаць на хвалюючае для мяне пытанне. Я замужам, маю дваіх дзяцей, адно з якіх з'яўляецца інвалідам з дзяцінства. 19 чэрвеня мяне скарацілі на працы. Ці мелі права так зрабіць?*

**З павагай ВАСІЛЬЕВА В. І.,** *г. Асіповічы.*

Артыкул 170 КЗаП РБ прадугледжвае гарантыі пры заключэнні і скасаванні працоўнага дагавору для цяжарных жанчын і жанчын, якія маюць дзяцей. Частка 3 гэтага артыкула не дапускае скасавання працоўнага дагавору па ініцыятыве наймальніка з жанчынамі, якія маюць дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў, акрамя выпадкаў ліквідацыі прадпрыемстваў.

На жаль, вы не назвалі, якога ўзросту дзеці, таму адказ даецца прыкладны. У тым выпадку, калі пры звальненні вас парушаны правілы, прадугледжаныя вышэйназванай часткай арт. 170 КЗаП РБ, гэта з'яўляецца парушэннем працоўнага заканадаўства. Вы можаце звярнуцца ў суд за абаронай сваіх правоў.

Акрамя таго, невядома з пісьма, ці былі захаваны правілы ч. 2—5 арт. 33 КЗаП РБ і іншыя абставіны, якія маюць значэнне ў вашай справе. Таму ў любым выпадку вы можаце звярнуцца ў раённы суд з іскам аб аднаўленні на працы.

## І Ў ТАЛІН ТРЭБА ПРАВІЛЬНА НАБІРАЦЬ КОД І НУМАР

*Цікава працуюць петрыкаўскія сувязісты. Мне спатрэбілася пазваніць у Талін. Загадзя заплаціў за размову, набраў нумар, але ніякай тэлефоннай размовы не адбылося. Ці вернуць у такім выпадку мне заплачаныя грошы?*

**М. ЯРОМІН,** *г.п. Капаткевічы, Петрыкаўскі раён.*

На гэта пытанне адказаў **першы намеснік генеральнага дырэктара рэспубліканскага аб'яднання «Белтэлеком» М. Крукоўскі:**

— Па вашаму пісьму тэхнічным персаналам Петрыкаўскага раённага вузла электрасувязі зроблена праверка і выяўлена, што пры наборы нумара тэлефона абанента Таліна па аўтаматычнай міжгародняй тэлефоннай сувязі вамі была дапушчана памылка. Замест (8-0146) 342947 Вы набралі (8-0142) 6342947. У выніку адказваў не абанент, а ўключаўся аўтаінфарматар Талінскай гарадской тэлефоннай сеткі з паведамленнем аб няправільна набраным нумары. Аднак гэтыя злучэнні былі зафіксаваны і пратарыфікаваны як аднахвілінныя размовы.

Праўда, улічваючы, што размова з абанентам Таліна не адбылася, прынята рашэнне аб зняцці за яе аплаты.

Адначасова хочам паведаміць, што тарыфікацыя міжнародных размоў пачынаецца з моманту адказу абанента або іншай асобы на выклік нумара або ўстройстваў, што замяняюць абанента ў яго адсутнасць, г. зн. тэлефакса, аўтаадказчыка, вызначальніка нумара.

Вось чаму сума для аплаты за ўказаныя міжнародныя тэлефонныя размовы з Талінам налічана ў адпаведнасці з «Тарыфамі на паслугі міжнароднай тэлефоннай сувязі». Кошт адной хвіліны размовы з гэтым горадам складае 8000 рублёў. За размовы, прадастаўленыя ў крэдыт, звыш аплаты за кожную з іх бярэцца сума ў памеры 50 працэнтаў ад кошту адной хвіліны размовы па звычайнаму тарыфу.

У дадзеным выпадку аўтару пісьма варта было звярнуцца на міжгароднюю тэлефонную станцыю Петрыкава па тэл. 07. Гэта, дарэчы, павінны рабіць і іншыя кліенты, калі яны не могуць дазваніцца па аўтаматычнай тэлефоннай сувязі.

# ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ У ПОШУКУ СКАРБАЎ

**На самай ускраіне вуліцы Кісялёва ў Мінску, ціхай старой вулкі з даваеннымі дамамі і таўшчэзнымі дрэвамі, ля царквы св. Марыі Магдалены прымасціўся непрыкметны двухпавярховы будынак. Ён нічым не адрозніваецца ад сваіх гэткіх жа састарэлых суседзяў. Хіба што невялікі кіёск (не звычайны чырвоны «камок» з гумкамі і шлёпанцамі, а драўляны, падобны на цацачны домік, зроблены па «дакамковаму» ўзору), што стаіць побач, прыцягвае ўвагу і знешнім выглядам, і тым, што ў ім прадаецца. А прадаецца ў ім тое, за чым «палююць» замежныя госці нашай сталіцы, а найбольш — нашы суайчыннікі, якім пашчасціла прыдбаць камандзіроўку ці пуцёўку ў заморскую краіну. Карацей, няцяжка здагадацца, што ў кіёску прадаюцца нацыянальныя сувеніры: лялькі ў народных апратках, вырабы з саломкі, распісны посуд, сталовая бялізна. Выпадковы прахожы здзівіцца: чаму такія рэчы прадаюцца ў такім глухім месцы?**

Гэта здзіўленне прымусіць яго звярнуць увагу на шыльду, што прымацавана на будынку, ля якога стаіць кіёск. Шыльда ў нейкай ступені дасць адказ на пытанне, але цікаўнага чалавека заінтрыгуе яшчэ больш, бо яна паведамляе, што ў доме знаходзіцца Цэнтр беларускіх народных рамёстваў «Скарбніца». Аўтара гэтых радкоў шыльда зацікавіла настолькі, што я паспяшалася даведацца, што ж адбываецца за дзвярыма будынка, якія «скарбы» знаходзяцца ў «Скарбніцы».

Дырэктар Цэнтра Ірына Сініца расказала, што дваццаць гадоў таму пастановай Савета Міністраў была створана навукова-даследчая мастацка-эксперыментальная лабараторыя з мэтай вывучэння гісторыі, стану і перспектыў развіцця народных рамёстваў. Тады, у 76-м, на працу ў новастворную арганізацыю прыйшлі маладыя, энергічныя, апантаныя сваёй справай выпускнікі колішняга тэатральна-мастацкага інстытута. Яны адразу пачалі ездзіць у экспедыцыі па ўсіх рэгіёнах Беларусі, рабіць фотаздымкі, а то і збіраць у насельніцтва тыповыя мясцовыя ўзоры ткацтва, вышыўкі, роспісу керамікі, саломапляцення. Прывезеныя з экспедыцый матэрыялы дасканала апрацоўваліся. За дваццаць гадоў удалося сабраць унікальны метадычны фонд. Са з'яўленнем новых і новых матэрыялаў узнікла ідэя: чаму б не прымусіць традыцыі працаваць на сучаснасць, чаму б на аснове старых узораў не распрацаваць новыя вырабы? Так лабараторыя ператварылася ў Цэнтр, адзіны сёння ў нашай рэспубліцы, ды і ў блізкіх суседзяў няма, бадай, нічога падобнага.

З матэрыяламі, сабранымі ў метадычным фондзе, пастаянна працуюць мастацтвазнаўцы. Яны вывучаюць тэхналогію стварэння, узнаўляюць так званы аўтэнтычны (першапачатковы) выгляд вырабу. А потым на яго аснове, выкарыстоўваючы дэталі, прыдумваюць новыя, сучасныя мадэлі адзення, узоры тканіны, упрыгажэнні і сувеніры, якія ці не кожны хацеў бы мець у сваёй кватэры.



Надаюць жыццё прыгожым ідэям у чатырох аддзелах Цэнтра. Майстры аддзела дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва плятуць з саломкі ўсё — ад вялікіх «павукоў» і калядных «зорак» да маленькіх далікатных сувеніраў. Тут жа нараджаюцца і інкруставаныя саломкай пано з героямі народных казак, з мілымі і знаёмымі сэрцу кожнага беларуса пейзажамі. Тут распісваюць шкло і дрэва, выкарыстоўваючы элементы славутага агоўскага роспісу, узоры якога таксама захоўваюцца ў метадычным фондзе. Асноўную сыравіну — салому супрацоўнікі аддзела назапашваюць самі, выязджаючы летам на палі і шукаючы падыходзячы для работы матэрыял. Галоўнае, каб у саломе было як мага менш хімікатаў.

У аддзеле праектавання трыкатажных вырабаў ніводная жанчына, напэўна, не застанецца раўнадушнай, глянуўшы на ўжо гатовыя мадэлі. Гэта адзенне вельмі адрозніваецца ад турэцкага ці венгерскага трыкатажнага «шырспажыву». Аднак ад гэтага яно выглядае не менш модным і сучасным, хоць у кожным касцюме, у кожнай сукенцы — элементы з народных строяў таго ці іншага рэгіёна Беларусі. Гэтыя вырабы, нягледзячы на попыт на іх, шырока не тыражыруюцца, выпускаецца на продаж па пяць-дзесяць адзінак кожнай мадэлі, таму пагрозы быць падобнай на некага ў такім адзенні не існуе.

У аддзелах ручнога ткацтва і вышытых вырабаў нараджаюцца этнаграфічныя, сцэнічныя касцюмы. Загадчык аддзела ручнога ткацтва Людміла Падабед паказала ў альбоме метадычнага фонду ўзор тканіны, якую падчас экспедыцыі на Віцебшчыну знайшлі ў адной бабкі на прыпеку. Старая не помніла, як ткаць такі ўзор, але «анучку» прыезджым падарыла. Толькі разабраўшы тканіну па нітачках, супрацоўнікі аддзела зразумелі сакрэт тэхналогіі ткацтва. Цяпер на яе аснове створана шмат новых узораў ільняных і шарсцяных тканін. Ансамблю танца «Харошкі» рабілі касцюмы з такой тканіны, хаця дагэтуль падобны від ткацтва для адзення не выкарыстоўваўся...

А яшчэ ў аддзеле ткацтва робяць аздобу для самых вытанчаных, у народным стылі інтэр'ераў. Мне паказалі ўзоры парцьераў, якія вісяць на вокнах нашых пасольстваў у Францыі, Швейцарыі, Расіі... Для Вярхоўнага Савета ў Цэнтры ткалі вялізны пяціметровы абрус, для рэстарана «Беларусь» — рознакаляровыя, у нацыянальных традыцыях, пано... Заказчыкі, як відаць, не простыя. Але заказаць сабе штонебудзь, скажам, шторы, гэткія, як у пасольстве ў Францыі, можа кожны. Праўда, каштаваць гэта будзе значна даражэй, але затое такіх не будзе ў суседа, ды і работа ручная — працуюць ткачыхі на звычайных драўляных кроснах, якія ў мяне дома, напрыклад, гадоў з пяцьдзесят ужо пыляцца на гарышчы і ніхто нават блізка не ведае, як імі карыстацца...

Заказчыкаў у Цэнтра шмат. У іхніх касцюмах выходзяць на сцэну Дзяржаўны ансамбль танца, «Сябры», «Харошкі», «Крыжачок», «Свята», «Бяседа»... Саламяны капялюшык на галаве ў Лікі на вядомым плакаце — таксама са «Скарбніцы». Сярод заказчыкаў на афармленне інтэр'еру — адміністрацыя Прэзідэнта, Кабінет Міністраў, магазін «Паўлінка», камерцыйныя фірмы...

Грошы Цэнтру патрэбны — арганізацыя амаль цалкам на гаспадарчым разліку. «Але нам зусім не ўсё роўна, для каго рабіць,— сказала Людміла Падабед.— Калі бачыш, што заказчык сапраўды цікавіцца мастацтвам, што ён будзе глядзець на рэч і цешыцца з яе, ствараеш з ахвотай. Калі ж адчуваеш, што чалавек плаціць за рэч грошы толькі дзеля таго, каб нажыць на ёй яшчэ большыя,— прыкра становіцца і шкада свайго часу і працы»...

Усё, што ствараецца ў Цэнтры, можна заказаць. Але каб паказаць заказчыкам узоры, няма нават памяшкання. Даводзіцца дэманстраваць прама ў аддзелах, дзе адначасова працуюць людзі. Супрацоўнікі Цэнтра спадзяюцца, што хутка, нарэшце, збудзецца іх мара — адкрыць уласную краму. Тады працаваць будзе нашмат лягчэй.

На матэрыялы метадычнага фонду таксама вялікі попыт. Школы, гімназіі, музеі, мастацкія фабрыкі... Мара кіраўніка цэнтра — камп'ютэрная сістэма, у якую б можна было ўвесці ўсе звесткі з фонду. Але пакуль гэта толькі мара, а тым, хто хоча што-небудзь знайсці, даводзіцца гартаць тоўстыя альбомы, праглядаць шматлікія слайды...

Пры знешняй добраўпарадкаванасці і наладжанасці працы адна з самых балючых праблем у Цэнтра — спыненне з-за недахопу грошай навуковых экспедыцый. Апошняя, у Віцебскую вобласць, была пяць гадоў назад. Тады яе ўдзельнікі прывезлі унікальную знаходку — стараверскі касцюм, які не мае нічога агульнага з нацыянальным беларускім і захаваўся на Віцебшчыне да нашых дзён. Хоць абследаваны практычна ўсе рэгіёны Беларусі, мастацтвазнаўца Наталля Барышава лічыць, што экспедыцыі патрэбна працягваць. З'яўляюцца новыя майстры, новыя традыцыі. Знікае пад цяжарам часу тое, што магло б стаць каштоўнейшым матэрыялам для метадычнага фонду. Як, напрыклад, узоры народнага майстэрства некаторых рэгіёнаў Гомельшчыны, якія былі бясследна знішчаны падчас аварыі на ЧАЭС. Цяпер яны засталіся толькі ў метадычным фондзе — іх прывезлі з экспедыцыі за тры гады да аварыі...



Пахадзіўшы па «Скарбніцы» гадзіны дзве, я так нічога і не заказала. Не тое што не хапала грошай, проста не знала, чаму аддаць перавагу. Але добры настрой ад убачанай натуральнай прыгажосці прыдбала на цэлы дзень. А ён у наш шалёны час — таксама скарб.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ**: Наталля СТАВІНАВА і Галіна ЗАГАРОЎСКАЯ дэманструюць трыкатажныя мадэлі; ткачыха Людміла ШАВЕЙКА і Соф'я ЛЯЎЧУК ля ручных кроснаў.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

***ПЕРАД ЛЮСТЭРКАМ***

# КАБ МАЛАДОСЦЬ ВЕДАЛА, А СТАРАСЦЬ МАГЛА...

*«ПЕРАД ЛЮСТЭРКАМ» — новая рубрыка, якую прапанаваў нам паэт і журналіст Навум Гальпяровіч. Зазірнуць у сябе, у сваю душу, лічыць аўтар, вельмі неабходна кожнаму. Асабліва ў наш час, калі ідзе ломка і пераасэнсаванне звыклых паняццяў і стэрэатыпаў, калі мы ўсе шукаем шляхі да людскасці, узаемаразумення, спасцігаем агульначалавечыя каштоўнасці. Аб усім гэтым і пойдзе размова ў развагах публіцыста.*

Ці ПАМЯТАЕЦЕ ВЫ гэтае дзіўнае хваляванне, гэты таемны страх перад тым, як трэба паглядзець ў люстэрка? Сапраўды, менавіта гэты кавалак шкла можа бязлітасна і дакладна выявіць перад вачамі ўласнае аблічча, якое часам не зусім адпавядае самаўяўленню пра свае твар, вочы і паставу. Гэта як каардыяграма, што сведчыць пра стан уласнага сэрца, уласнага здароўя.

Усе мы час ад часу зазіраем у люстэрка душы. Хто мы, якія мы, як умеем чуць адзін аднаго і самаго сябе? Давайце ж зазірнём у гэтае люстэрка, і тое адлюстраванне, якое ўбачым у ім, хай стане для нас роздумам і пошукам.

...Неяк, даволі даўно, мы з пісьменніцай Ірынай Жарнасек пабывалі на Глыбоччыне, у Доме-інтэрнаце для старых. Там, сустракаючы позіркі гэтых бабулек і дзядоў, слухаючы іх патрапаныя часам галасы, думалася пра чалавечую адзіноту і няўдзячнасць неяк аддалена, абстрактна і па-філасофску.

Але вось перада мной сядзіць мілы інтэлігентны чалавек, даўні мой знаёмы, і штохвілінна, нервова папраўляючы акуляры, распавядае звычайную жыццёвую гісторыю, якая паставіла яго перад маральным выбарам і непрыдуманай чалавечай трагедыяй.

А гісторыя банальная як свет. Жыве яшчэ пакуль у майго знаёмага бацька, якому восемдзесят шэсць гадоў. Застаўся адзін, пахаваўшы жонку дзесяць гадоў таму, маючы ўласную кватэру, дзе сяк-так і ўпраўляўся з няхітрай хатняй гаспадаркай. Але год назад аслабеў настолькі, што дзеці (а іх двое: мой знаёмы і ягоная сястра) прапанавалі на зіму пераехаць да сябе. Выбраў стары дачку — жанчына ўсё ж, ды і медык па прафесіі.

Тут, як гаворыцца, і догляд, і ўколы на месцы.

Ды проста толькі ў казках бывае. Аказваецца, у дачкі мужык папівае і па хаце ў адных споднікаx гарцуе, а сын-пэтэвушнік з дзедам не дужа знацца хоча, на ягоны «дабрыдзень» маўчыць і міма праходзіць.

А яшчэ палез аднойчы стары ў шафу для посуду за кубкам, ды абярнуў яго на падлогу. І калі чарапкі ўсёй сям'ёй збіралі, слоў розных з боку зяця нямала наслухаўся. І сам у даўгу не застаўся.

Карацей кажучы, прыйшоў аднойчы зяць у добрым падпітку, ды і паслаў дзеда далёка-далёка.

І стаў ён жыць у кватэры сына, майго, значыць, знаёмага. Тут «матам» не лаяліся, і сям'я прыстойная: жонка сына — настаўніца, унук — студэнт, выдатнік. І есці заўсёды прыгатавана, і пакой асобны, і тэлевізары ажно два. Але ж не пайшло ў старога і тут.

Мой знаёмы чарговы раз папраўляе акуляры і гаворыць:

— Ніколі не думаў, што можа быць так. Жонка плача, з дому сыходзіць на работу раней і вяртаецца пазней. Бацька скардзіцца, што з ім не размаўляюць. А нядаўна яна сама мне заявіла: рабі, маўляў, што хочаш, а з ім я жыць не магу. Ёсць, кажа, у яго кватэра, хай там і жыве. А калі не можа сам, хай дачку забірае. Усе, кажа, смяюцца: дачка ёсць, а нявестка яго абмываць ды адкормліваць павінна.

Добры мой знаёмы распавядаў пра тое, у штоператварылася ягонае жыццё пасля пераезду да яго бацькі. Да ягонага гонару, ён не шукаў выйсця, скіраванага на ўласны спакой, гатоў быў, па ягоных словах, нават кінуць сям'ю, але не пакінуць бацьку аднаго,

— Ты ведаеш, — у роспачы казаў ён, — самае дзіўнае, што з бацькам мы ніколі не былі духоўна блізкія. Ён і выпіць быў аматар, і маці крыўдзіў, і са мной сварыўся. Але ж бацька ўсё ж...

І я прыгадаў яшчэ адну размову. Не так даўно ў дзіцячым аздараўленчым лагеры аднаго з новаполацкіх прадпрыемстваў пабывалі чарговыя госці: смуглыя, з чорнымі смалянымі косамі студэнткі з міжнароднай групы, у якую ўваходзілі прадстаўнікі Афганістана, Турцыі, Грэцыі. На пытанне дзяцей і педагогаў, што ў нас спадабалася ці не спадабалася, дзяўчаты ў адзін голас заявілі, што не спадабалася, як у нас ставяцца да старых, тое, як шмат сёння сярод іх жабракоў, бяздомных, якія яны пакрыўджаныя, закінутыя.

Павага да старэйшых. Ушанаванне іх заслуг. Яшчэ адзін мой знаёмы — вельмі шаноўны чалавек. Поўны, як кажуць, сіл, хоць і дасягнуў шасцідзесяцігадовага ўзросту. Ды пайшоўшы, дарэчы, па ўласнаму жаданню, на адпачынак, з першага ж дня адчуў усю прыніжанасць, усю безабароннасць пенсіянера.

І што найбольш крыўдна, — ваяўнічую зларадпасць з боку былых падначаленых і вучняў, непрыхаваную радасць ад таго, што былы ўладны і ўпэўнены чалавек разгублена і бездапаможна сустракаецца з грубасцю і валакітай чыноўнікаў, абыякавасцю былых сяброў і блізкіх.

Здавалася б, усё ясна. Прачытаў напісанае і... Паглядзеў на першы аповяд вачыма другога боку. І не толькі паглядзеў, а і сустрэўся з іншымі ўдзельнікамі канфлікту. Канешне ж, пачуў, што стары — не падарунак: кашляе і харкае, ходзіць па начах, умешваецца не ў свае справы, нервуецца і «псіхуе», а то і гучна зневажае іншых: абзываецца п'яніцай і дурай, дэбілам. А яшчэ папракае ранейшымі падарункамі і грашамі.

А пра нядаўняга пенсіянера яго апанент казаў, як пра крыўдлівага, зласлівага чалавека, які не жадае паверыць маладым, падтрымаць, прыслухацца, падпарадкавацца, урэшце.

Дык што, у кожнага свая праўда? Ці ўсё ж пільней трэба ўглядзецца ў люстэрка.

У сваёй «геранталагічнай філалагеме» літаратуразнаўца Пятро Васючэнка заўважыў, што сённяшняя старасць часам больш агрэсіўная, чым маладосць. У прыклад ён прыводзіць дудараўскага персанажа ціхага пенсіянера Гастрыта, які схапіўся за нож, калі сябра Мульцік паспрабаваў быў пажартаваць з ягоным папяровы шчасцем — выйгрышным латэрэйным білетам. Ён піша: «Нашы старыя ў палітычных спрэчках на вуліцах не прызнаюць аргументаў, а цягнуцца адразу да пысы апанента». Дарэчы, у такіх назіраннях П. Васючэнка не адзінокі. Пра гэта шмат пісалі і гаварылі падчас перадвыбарнай прэзідэнцкай кампаніі ў Расіі, а многія прама заклікалі не даць старым выбіраць будучыню для маладых.

... У люстэрка не пытаюцца, што рабіць. Люстэрка можа толькі выклікаць гэтыя пытанні, на якія далёка не кожны і не заўсёды знойдзе адказы. На гэта яно і люстэрка.

Ёсць у Наваполацку маладая жанчына. Завуць яе Ірына, прозвішча Журко. Дык вось, на гэтыя і іншыя пытанні яна стараецца знайсці адказы сама. І не толькі знайсці, але і дапамагчы іншым, у тым ліку і тым, пра каго я згадаў сёння. Пра Ірыну Журко і яе паплечнікаў у наступны раз. А сёння я хачу завяршыць гаворку цытатай з твора майго сябра паэта Алеся Разанава:

«Слухай самога сябе... Але як нельга прымусіць нанова гарэць тое, што ўжо згарэла, — попел, як нельга яшчэ раз набыць рэч, якую маеш, так нельга спазнаць тое, чым ты ёсць, і гэта таму, што яно, гэтае тое, ужо «спазначанае»: у сферы сутнасці быць і ведаць — адно і тое ж».

І яшчэ: «ісціна нагадвае яшчарку: яна хаваецца ад даследчыка, пакідаючы яму свае аўтографы-хвасты».

Да новай сустрэчы ля люстэрка!

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**

## Канстанцін УСЦІМЧУК:

# «Калі вакол Беларусі існуе рынак, то мы проста фізічна не зможам ісці іншым шляхам...»

***22 ліпеня ў беларускай сталіцы адбудзецца з'езд дзелавых колаў Беларусі. Відавочна, што неабходнасць правядзення такога мерапрыемства наспела даўно. Дзяржава, асэнсоўваючы патрэбу ў зменах свайго стаўлення да прадпрымальніцтва, дзелавой ініцыятывы, фактычна робіць крок насустрач. Арганізатары з'езда — Нацыянальная асацыяцыя прамыслаўікоў і прадпрымальнікаў сумесна з Беларускай канфедэрацыяй прамыслаўікоў і прадпрымальнікаў. Наша гутарка напярэдадні падзеі з Канстанцінам Афанасьевічам Усцімчуком, генеральным дырэктарам Мінскага матавелазавода, старшынёй праўлення НАПП.***

**— Канстанцін Афанасьевіч, якая, на ваш погляд, асноўная мэта з'езда? Складваецца ўражанне, што дзяржава раптам пачынае праяўляць да прадпрымальніцтва не толькі больш пільную ўвагу, але і спрабуе заявіць аб сваёй рашучай падтрымцы прыватнага бізнесу. Чакаецца ўдзел у рабоце з'езда Прэзідэнта краіны. Падрыхтаваны і праект адпаведнага ўказа Прэзідэнта...**

— А чаму б і дзяржаве не праявіць увагу?.. Патрэба ў гэтым наспела даўно. Таму галоўная мэта з'езда — зрабіць вывады, даць ацэнку, што ёсць што ў сферы прадпрымальніцтва. Як развіваецца сфера бізнесу, што ўяўляе сабою — вось адзін з надзённых клопатаў. Па-другое, вельмі важна ўсвядоміць, што мы падышлі да новага этапа. На мяжы з ім і трэба адкрыта, прама ўсвядоміць, без усялякага самападману, што прадпрымальніцтва сённяшняе спакваля развальваецца, рушыцца, знаходзячыся, як і ўся наша эканоміка, у крызісным стане. І трэцяе. Здавалася б, прадпрымальнікаў аб'ядноўваюць многія арганізацыі, многія асацыяцыі і саюзы...

**— Іх лік ужо, мусіць, ідзе на дзесяткі аб'яднанняў?**

— Магчыма. Ды толькі ж справа не ў колькасці. Перакананы, што з прадпрымальнікам у арганізацыйным плане сёння ніхто не працуе. У тым ліку, на вялікі жаль, пакуль што і сама дзяржава. Вось з'езд і закліканы змяніць сітуацыю. Ужо фактычна ў агульных рысах агучаны і праект указа Прэзідэнта аб падтрымцы малога і сярэдняга прадпрымальніцтва.

**— Дарэчы, асноўныя яго палажэнні?..**

— Хаця ў гэтым указе не сказана пра буйны бізнес, буйное прадпрымальніцтва (спадзяюся, што ўвага да гэтага таксама ў хуткім часе будзе праяўлена), мяркуецца, дакумент самым істотным чынам паўплывае на актыўнае і якаснае пашырэнне прадпрымальніцкага руху. Указ пакуль не падпісаны, таму і гаварыць аб ім прыходзіцца як аб праекце...

**— І тым не меней...**

— Відавочна, што ўказ стане падтрымкай для сапраўдных прадпрымальнікаў.

**— Прабачце, але каго вы маеце на ўвазе, гаворачы пра сапраўднасць?..**

— Лік прадпрымальнікаў на Беларусі можна весці на дзесяткі, а то і сотні тысяч. Але ж справай займаюцца, магчыма, трыццаць—сорак, а то і меней працэнтаў.

**— А калі гаварыць пра вытворчую сферу...**

— То і таго меней — 16—18 працэнтаў. Астатнія ж праяўляюць свой талент у гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасці.

**— Канстанцін Афанасьевіч, дапусцім, прыняты ўказ, Вярхоўны Савет, набраўшыся за адпачынак сіл, давядзе да жыцця закон, прысвечаны малому прадпрымальніцтву. І што пасля? Вы мяркуеце, сітуацыя ў аднечассе зменіцца пад рашучым уплывам новага заканадаўчага фундамента?**

— Па-першае, фундамент ён на тое і фундамент, каб нешта сур'ёзна і грунтоўна трымаць, несці на сабе, а не развальвацца пад уплывам першых жа сейсмічных хваляванняў. Так, змены ў заканадаўчай базе павінны істотна пашырыць прастору прадпрымальніцкай дзейнасці, аказаць ёй спрыянне і ў падаткаабкладанні, у прыватнасці, трывала забяспечыць умовы для ўпэўненасці ў перспектывах развіцця. Але ж шмат залежыць і ад агульнай атмасферы, якая фарміруецца не толькі і зусім не па жаданню «державного перста». А самі прадпрымальнікі — хіба не павінны яны сваім удзелам у эканоміцы даказваць свой добры, разумны, працуючы на дабрабыт дзяржавы і народа імідж. Даказваць справай.

**— Іначай кажучы, дастойна несці сцяг прадпрымальніцтва...**

— Толькі так. Калі вы працуеце ў гэтай краіне, калі зарабляеце грошы, дзякуючы гэтаму народу, то чаму тады пэўную, значную частку капіталу выводзіце з абарачэння, кідаеце яго на Кіпр ці ў іншую чужаземную старонку?

**— Канстанцін Афанасьевіч, але ж адказ вельмі просты, ён відавочны — і яны, бізнесмены, таксама звычайныя людзі. І ім уласціва пачуццё страху. І яны хацелі б мець большыя, цвярдзейшыя, падмацаваныя дзесяцігоддзямі стабільнасці гарантыі.**

— Так, структуры ўлады павінны былі б даваць, прадстаўляць абяцанні, гарантаваныя заканадаўчымі актамі і заканадаўчай практыкай. Ды толькі ж і прадпрымальнікі абавязаны. Давайце, паважаныя гаспадары і прыватнай, і дзяржаўнай уласнасці, працаваць разам, працаваць на адну краіну. Тым болей, што — і ўсе мы гэтаму сведкі — пачатак прадпрымальніцтва фарміраваўся, развіваўся за кошт дзяржаўнага патэнцыялу.

**— Ці не падаецца вам, што сённяшні рух, актыўны паварот дзяржавы да прадпрымальнікаў абумоўлены вынікамі выбараў у Расіі?**

— Хутчэй, як вы гаворыце, паварот дзяржавы абумоўлены ўвогуле зносінамі з краінамі-суседзямі. З Расіяй — у першую чаргу. Калі там ідзе рух да развіцця, умацавання рынку, то нам проста нельга стаяць на месцы. Нас не зразумеюць. І, відавочна, з намі ўсё ў меншай ступені будуць супрацоўнічаць. Гаспадарам з рознымі формамі ўласнасці цяжка дамовіцца паміж сабою. Калі вакол Беларусі існуе рынак, то мы проста фізічна не зможам ісці іншым шляхам...

**— Канстанцін Афанасьевіч, і апошняе, пра што хацелася б спытаць. Ці не лічыце вы, што ўсё ж дырэктыўным шляхам прыватны сектар развіваць няпроста? Боязна, каб не здарылася так, што заўтра будзе аддадзены загад раптоўна раздзяржавіцца, скажам так...**

— Спадзяюся, што так не здарыцца. Хаця б ужо таму, што на дзяржаўныя рашэнні ўплываюць эканамічныя законы. Раптоўна прыватнікам стаць немагчыма. Таму мы (у першую чаргу — кіраўнікі буйных прадпрыемстваў) спадзяёмся, што дзяржаўнае спрыянне будзе аднолькавым розным формам уласнасці, што рух да прыватнай уласнасці будзе паслядоўным. Дырэктыва і загад стаць капіталістамі, спадзяюся, не будуць аддадзены. А наступным крокам, магчыма, стане ці то ўказ, ці то іншая самая рашучая падтрымка тых дзяржаўных прадпрыемстваў, што сёння з'яўляюцца асноўнымі крыніца-носьбітамі бюджэту краіны.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Павел ДАНЕЙКА:

# «Бізнес як трава, якая праб'ецца і праз асфальт»

***ВЫКАЗАЦЬ СВАЕ ДУМКІ па гэтай тэме мы папрасілі і сакратара Камісіі ВС па эканамічнай палітыцы і рэформах*** **Паўла Данейку:**

**— Павел Уладзіміравіч, як бы вы ахарактарызавалі сённяшні стан спраў у галіне беларускага бізнесу?**

— Я лічу, што сёння бізнес згортвае сваю дзейнасць на Беларусі і ўжо амаль поўнасцю замарозіў рэальную інвестыцыйную актыўнасць. У лепшым выпадку бізнес падтрымлівае сваё функцыянаванне на ўзроўні аднаўлення. Гэта не толькі не прыцягненне ў краіну замежных інвестараў, але і адпужванне патэнцыяльных айчынных інвестыцый. Апошнім часам людзі, якія робяць бізнес у Беларусі, аддаюць перавагу ўкладанню грошай у іншыя краіны. Выкліканы гэты працэс, перш за ўсё, адсутнасцю хоць якіх-небудзь гарантый стабільнасці, устойлівасці развіцця бізнесу і абароны яго з боку ўладаў. Тут і нестабільнасць нацыянальнай валюты, што вельмі ўскладняе фінансавую дзейнасць прадпрыемстваў, і перарэгістрацыя згодна ўказа Прэзідэнта, якая дала права ці не кожнаму чыноўніку быць у ролі суддзі і вырашаць, быць прадпрыемству ці не...

**— У прадпрымальніцкіх колах неадназначна ўспрымаюцца ўзаемаадносіны з уладай. З аднаго боку, ужо два гады як сцвярджаюць: прадпрымальніцтва «душаць» падаткамі, рэкетам... Ці «задушылі» каго?**

— Безумоўна, вынікі гэтага «душэння» ёсць. Але, на маю думку, у нашым грамадстве драматызуюць сітуацыю, надаюць рэальным эканамічным працэсам тэатральныя адценні. Бо бізнес, калі ёсць належныя ўмовы, магчымасці, будзе існаваць, як бы яго ні хацелі задушыць. Бізнес, як трава, якая праб'ецца і праз асфальт. Таму нельга ацэньваць наступствы негатыўнай палітыкі ў адносінах да прадпрымальніцтва з пункту гледжання таго, наколькі бізнес прыйшоў у заняпад ці знік. Трэба ацэньваць з пункту погляду таго, наколькі ён не вырас, якім бы ён мог быць, але не стаў, колькі б ён мог даць народнай гаспадарцы і колькі не даў, колькі мог прынесці ў бюджэт і колькі не прынёс. З гэтага пункту погляду страты каласальныя.

У эканоміцы страты ацэньваюцца не толькі як рэальныя страты, стратамі з'яўляецца і тое, што мы маглі атрымаць, але не атрымалі.

**— Вядома, што зараз распрацоўваецца ўказ аб падтрымцы «малога» прадпрымальніцтва. Якія асноўныя моманты, на вашу думку, павінен утрымліваць гэты дакумент?**

— Структура падтрымкі «малога» прадпрымальніцтва даволі простая. Яна аднолькавая для ўсіх краін свету. Першае — гэта спрошчаная працэдура рэгістрацыі прадпрыемства. Рэгістрацыя павінна праходзіць хутка і быць таннай. Другое — гэта спрошчаная сістэма падаткаабкладання. Існуючая падатковая сістэма вельмі складаная. Напэўна, няма ніводнага чалавека, які б ведаў поўнасцю ўсю падатковую сістэму і беспамылкова мог вызначыць, што і як трэба плаціць. Чалавек, які ўступае ў бізнес без спецыяльнай адукацыі, павінен сутыкнуцца з дасціпнай простай сістэмай падаткаабкладання. Інакш неўплачаныя па няведанню падаткіператворацца ў штрафы, якія могуць і загубіць маладое прадпрыемства. Трэцяе — гэта спрошчаная сістэма бухгалтарскай справаздачнасці прадпрыемстваў. Тут існуе тая ж праблема, што і з сістэмай падаткаабкладання. Я назваў тры моманты, якія неабходныя для падтрымкі «малога» бізнесу і якія не патрабуюць ніякіх інвестыцый. Ёсць яшчэ і іншыя захады, аднак яны патрабуюць пэўнага фінансавання з боку дзяржавы. Па-першае, гэта адукацыйная падтрымка «малога» бізнесу. Напрыклад, у ЗША 70 працэнтаў узнікшых новых прадпрыемстваў закрываюцца на працягу першага года сваёй дзейнасці. У той жа час 70 працэнтаў прадпрыемстваў, якія стварылі прадпрымальнікі, што прайшлі навучанне ў спецыяльных цэнтрах для «малога» бізнесу, выжываюць. Трэба стварыць такія цэнтры і ў нас, падтрымліваць іх. Па-другое, адкрыць доступ да крэдытаў для «малога» бізнесу. Сёння атрымаць крэдыты новаму бізнесмену даволі складана. Замежныя дзяржавы звычайна вырашаюць гэту праблему, ствараючы страхавую дзяржаўную кампанію, якая страхуе рызыку банкаў пры рабоце з «малым» бізнесам. Па-трэцяе, гэта льготнае страхаванне маёмасці малых прадпрыемстваў. У першую чаргу гэта мера накіравана на абарону прадпрымальнікаў ад рэкету. Бо пагроза страты маёмасці з'яўляецца галоўным «аргументам» рэкету супраць «малога» бізнесу.

Аднак гэтыя тры крокі патрабуюць пэўных фінансавых выдаткаў з боку дзяржавы, і, я думаю, што на першым этапе яны, на жаль, немагчымы.

**— Ці былі спробы ў беларускім парламенце ініцыіраваць стварэнне неабходнай заканадаўчай базы для далейшага паспяховага развіцця прадпрымальніцтва?**

— Як вядома, ВС у першым чытанні прыняў закон аб падтрымцы прадпрымальніцтва. Зараз падрыхтаваны законы аб спрошчанай працэдуры справаздачнасці і спрошчанай працэдуры падаткаабкладання. На працягу восені—зімы гэтага года заканадаўчая база будзе сфарміравана.

**— Павел Уладзіміравіч, ці ўскладаеце вы на маючы адбыцца з'езд беларускіх дзелавых колаў пэўныя надзеі, ці чакаеце практычных вынікаў?**

— У мяне няма ніякага песімізму ў дачыненні да гэтага з'езда. Дыялог у любым выпадку патрэбны, бо ён заўжды карысны і прыносіць нейкія вынікі. А вось якія вынікі ён прынясе, будзе залежаць ад многіх фактараў. Таму не бяруся прадказаць ступень эфектыўнасці. Аднак тое, што гэта патрэбна і будзе карысна для ўсіх, у мяне не выклікае сумненняў.

**Гутарыў Сяргей ПРОТАС.**

*«СЛАВЯНСКІ БАЗАР-96»*

# Перамога — не толькі тады, калі даюць гран-пры

***ІСКУІ АБАЛЯН сёлета адна прадстаўляла Беларусь на конкурсе маладых выканаўцаў «Славянскага базару». Таму для Беларусі — яна пераможца. Усяго на адзін бал адстала ад уладарніцы 3-й прэміі расіянкі Таццяны Анісімавай. Але не памылюся, калі скажу, што выглядала прадстаўніца Беларусі на конкурсе вельмі добра. Дарэчы, музычнае спаборніцтва праходзіла на высокім узроўні. І канкурсанты (за выключэннем асобных выпадкаў) выступалі даволі роўна. Хаця журы зрабіла свой выбар на карысць Русланы Лыжэчка з Украіны, якой дастаўся гран-пры — «Залаты певень». Члены журы казалі пра аб'ектыўнае судзейства, пра тое, што ўсе прэміі размеркаваліся справядліва. Магчыма. Але ў адрозненне ад мінулага года, калі лёс галоўнага прыза быў вызначаны амаль з першага дня, калі перамога серба Філіпа Жмахера ні ў каго не выклікала сумненняў, то сёлета на розум прыходзяць разважанні: «гран-пры» — гэта перш за ўсё з'ява, не падобная да іншых, гэта асоба ў музыцы. Дык калі журы адзначыла, што конкурс праходзіў роўна, магчыма, галоўны прыз можна было ўвогуле не прысуджаць? Тым больш па адзнаках мяжу ў 91 працэнт пераступілі Хакан Аскайя з Турцыі і грузінка Мая Каркарашвілі.***

***Яшчэ пытанні да суддзяў, якія запэўнівалі ў аб'ектыўнасці. Калі аднаму і таму ж удзельніку за выступленне ставяць «5» і «8» балаў, няўжо гэта сведчанне аднадушнасці?..***

***Тым не менш Іскуі Абалян павезла дадому ў Магілёў даволі каштоўныя прызы ад спонсараў. І сваё жаданне працаваць далей.***

— Я працую ў Магілёўскай філармоніі. Яшчэ да «Славянскага базару» ў нас былі планы зрабіць сваю праграму. Зараз, ужо распусціўшы крылы, можна з упэўненасцю сказаць, што гэты праект будзе. Для маладога выканаўцы важны новы рэпертуар, нешта цікавае. Інакш усе ўдзелы ў конкурсах не вартыя граша ломанага. Усё пачынаецца пасля конкурсу.

**— Вы перамаглі ў конкурсе «Зорная ростань», атрымаўшы такім чынам пуцёўку на «Славянскі базар». Дзе яшчэ вам прыходзілася выступаць, што выконваць?**

— У тым жа Віцебску мяне запрашалі на конкурс прыгажунь і на фестываль авангарднай моды «Міла-96», які праходзіў у Мінску. Там выконвала дзве новыя песні, адна з іх мая, другая — маладога кампазітара Аляксандра Цыплякова. Справа ў тым, што свой стыль знайсці адразу немагчыма. Дзесьці ўнутры ён ёсць, але толькі дзякуючы працы з часам праяўляецца.

**— У Віцебску вы выканалі песню В. Раінчыка. Ці была размова з гэтым кампазітарам пра далейшае супрацоўніцтва? Ці былі іншыя прапановы?**

— Я ахвотна зрабіла б сольную праграму на музыку Раінчыка. Ён цудоўны кампазітар. І калі такая прапанова будзе, я з задавальненнем яе прыму. Я думаю, што можа атрымацца добры творчы альянс. Увогуле, мне цікава было б рабіць розныя праекты, не стаяць на месцы. Але сур'ёзных планаў, далёка ідучых, каб перабрацца ў Мінск, у мяне няма. У Магілёве мой дом, сям'я, я прывыкла да гэтага горада.

**— Калі стала ясна, што вы будзеце абараняць Беларусь на конкурсе ў Віцебску, ці дапамагаў вам нехта ў падборы рэпертуару?**

— Гэтым я займалася абсалютна самастойна. Мы з мужам самі хадзілі ў бібліятэку, перабралі ўвесь рэпертуар пачынаючы ад Маі Крысталінскай да сучасных песень. Ніхто са мной спецыяльна не працаваў.

**— На Беларусі вы атрымалі музычную адукацыю. Што яшчэ дала вам наша краіна?**

— Усё жыццё ў мяне прайшло ў Смаленску, хоць у раду ў мяне ўсе армяне, і я гэтым ганаруся. Я скончыла тэарэтычнае аддзяленне музычнага вучылішча, аддзяленне харавога дырыжыравання Магілёўскай кансерваторыі. Тут сустрэла сваё шчасце. Пакахала, што называецца — угадала. У мяне цудоўны муж. Я жыву музыкай, цікавымі сустрэчамі са сваімі сябрамі, у мяне іх вельмі многа.

**— Вы думалі пра стварэнне свайго сцэнічнага іміджу?**

— Усё, што вы бачылі на сцэне, — мой густ, мой уклад ва ўласны імідж. Ужо тут, на «Славянскім базары», са мной працавала мастак Цэнтра моды Надзея Прышчэпа, яна мне дапамагала, і я вельмі рада, што пазнаёмілася з такім добрым чалавекам.

**— Ці не было страшна вам адной — без іншых удзельнікаў ад Беларусі — выходзіць на сцэну ў конкурсе?**

— Страх — паняцце дзіцячае. Тут ужо хутчэй уключаецца пытанне адказнасці, прафесіяналізму. Ва мне гаварыла пачуццё гонару.

**Запісала Ларыса ЦІМОШЫК.**

**Мікалай ГРЫБАНОЎСКІ:**

# «ПАКОЛЬКІ МЕТАЛ — ХЛЕБ ІНДУСТРЫІ, ТО І АДНОСІНЫ ДА ЯГО ПАВІННЫ БЫЦЬ ЯК ДА ХЛЕБА»

**Яшчэ параўнаўча не так даўно мы з гордасцю гаварылі: Савецкі Саюз упэўнена лідзіруе па выплаўцы чыгуну. Парадокс, але на самай вялікай у свеце Курскай магнітнай анамаліі самым вялікім у свеце шагаючым экскаватарам грузілі жалезную руду на самы вялікі ў свеце самазвал, везлі на самую вялікую ў свеце доменную печ, плавілі метал, з якога выраблялі самыя вялікія ў свеце экскаватары і самазвалы. І няўцям было, што ганарыцца нечым, бо развітыя краіны даўно перайшлі на паўторнае выкарыстанне металу, які ў структуры выплаўкі сталі займае да 80—85 працэнтаў, у той час як у нас не было і палавіны. З распадам Саюза гэтыя суадносіны значна пагоршыліся.**

**Што датычыцца рэспублікі, то мы апынуліся яшчэ ў больш незайздросным стане. Маючы шмат металаапрацоўчых прадпрыемстваў, Беларусь, на жаль, не валодае адпаведнай сыравіннай базай. І тут уся надзея на другасныя рэсурсы, на металалом. Яго зборам і неабходнай дапрацоўкай і займаецца дзяржаўнае вытворчае аб'яднанне «Белутармет», работнікі якога заўтра адзначаюць сваё прафесіянальнае свята — Дзень металурга. Прадпрыемства трымаецца на плаву, абнаўляе свой тэхнічны парк, рэгулярна разлічваецца з бюджэтам. Аб працоўных здабытках калектыву, перспектывах развіцця, праблемах, што хвалююць металургаў, мы і папрасілі расказаць генеральнага дырэктара ВА «Белутармет», прадстаўніка міждзяржаўнага еўразіяцкага аб'яднання вугалю і металу Мікалая ГРЫБАНОЎСКАГА.**

— СЛУЖБА «Утарчармета» мае даўнія і слаўныя традыцыі, — зазначае Мікалай Рыгоравіч. — Дастаткова сказаць, што ў наступным годзе будзем адзначаць 75-годдзе. Менавіта 19 красавіка 1922 года пастановай Савета працы і абароны і было створана аб'яднанне «Металгандаль». Яно некалькі разоў рэарганізоўвалася, мяняла напрамкі і нават профіль работы, але нязменным заставалася адно: збор, падпрацоўка і здача на металургічныя заводы металічнага лому. І ў гэтым плане Беларускае рэгіянальнае аддзяленне «Утарчармета» займала перадавыя пазіцыі. У свой час у Гатаве пад Мінскам пабудавалі буйнейшы ў Саюзе завод «Утарчармета». Ён быў разлічаны на перапрацоўку лому не толькі з прадпрыемстваў рэспублікі, але і Прыбалтыкі, Украіны і часткова Расіі. Потым, пасля параду суверэнітэтаў, справы катастрафічна пагоршыліся. Мала таго, што згубіліся традыцыйныя рынкі, дык яшчэ ў сувязі з эканамічным крызісам рэзка ўпаў паказчык абнаўляльнасці тэхнічнага парку. Калі раней калгасы і саўгасы набывалі штогод па некалькі камбайнаў і трактароў, адпаведна столькі ж спісвалі ва ўтыль, то цяпер на гэтулькі адзінак абнаўляе свой парк у лепшым выпадку цэлы раён. Усе імкнуцца «цыраваць» даўно спісаную тэхніку. Не ў лепшым стане і прамысловасць. Тут таксама няма сродкаў для абнаўлення і рэканструкцыі. Зноў жа раней райкомы даводзілі да кожнага вытворцы канкрэтныя заданні па збору металалому, што ў пэўнай ступені мабілізоўвала людзей. Цяпер і гэтага няма: рыначныя ўзаемаадносіны ўсё яшчэ ў стадыі станаўлення.

**— А якая структура вашага аб'яднання? Хто і дзе збірае той металалом?**

— Сёння ў рэспубліцы дзейнічае 12 прадпрыемстваў (ва ўсіх абласных цэнтрах і буйных гарадах) і 39 участкаў і цэхаў па збору металалому, з якіх 5 пабудавалі за свой кошт. А гэта ў наш час ой як няпроста. Арганізацыяй збору металічнага лому ад насельніцтва займаюцца таксама нарыхтоўшчыкі Белкаапсаюза. Там адкрыта звыш 150 пунктаў.

Своечасовы збор і здача на нарыхтоў-



чыя пункты ўсяго аб'ёму гэтай каштоўнай сыравіны мае вялікае народнагаспадарчае значэнне. Падлічана, што толькі ад натуральнай карозіі губляецца штогод да 7 працэнтаў вагі любога вырабу са сталі, што без справы валяецца на зямлі. Да таго ж гэта небяспечна і для навакольнага асяроддзя: вокісламі жалеза забруджваецца зямля, вада.

Каб паскорыць працэс збору металалому, мусім значныя сродкі (недзе да 70 працэнтаў ад прыбытку) укладваць непасрэдна ў вытворчасць: пастаянна папаўняем аўтапарк, набываем спецыялізаваную тэхніку, асвоілі вытворчасць карабоў для металалому грузападымальнасцю да 8 тон. За кожнай аўтамашынай замацаваны па 12 такіх карабоў. Іх дастаўляюць ў месцы збору лому, а потым, па меры запаўнення, адвозяць на пункты збору ці непасрэдна на прадпрыемствы «Белутармета» для далейшай дапрацоўкі і адпраўкі спажыўцам. Толькі за мінулы год такім чынам нарыхтавалі каля 130 тысяч тон металалому. А ўсяго ў рэспубліцы нарыхтавана звыш 600 тысяч тон лому. Вядома, гэта намнога менш, чым было ў самым пачатку 90-х гадоў, але ў асноўным калектыў з пастаўленай задачай спраўляецца.

**— А як з гэтай справай на Захадзе? Хто там займаецца зборам і падпрацоўкай металічнага лому?**

— Там рэгуляванне выкарыстання металалому знаходзіцца пад жорсткім кантролем дзяржавы, бо гэта ж стратэгічная сыравіна. І правілы некалькі іншыя, чым у нас. Скажам, калі гаспадар аўтамабіля ў Германіі мае намер пазбавіцца ад свайго транспартнага сродку, каб купіць новы, то толькі за тое, каб здаць яго на металалом, ён павінен заплаціць недзе каля 200 марак. А калі ж надумаецца пакінуць аўтамабіль дзе-небудзь на пустэчы, як гэта нярэдка бывае ў нас, то спецыяльныя службы даставяць яго на пункт прыёму. Але колькі ж гэта будзе каштаваць яго быламу гаспадару! Ён заплаціць тыя ж 200 марак, ды яшчэ за транспарціроўку, не лічачы штрафу, які балюча б'е па кішэні. Усё гэта дысцыплінуе людзей, у адрозненне ад нашых суайчыннікаў, якія кідаюць старыя хатнія бытавыя прыборы абы дзе. Ды і старыя машыны таксама. Таму лічу, што неабходна распрацаваць і прыняць спецыяльны закон аб парадку збору другаснай сыравіны, у тым ліку і металічнага лому. Прычым, строга абавязаць вытворцаў, насельніцтва, каб яны самі здавалі зношаныя механізмы, розныя прыборы на прыёмныя пункты. Гэта намнога падзешавіць працэс збору адходаў і лому, што ў сваю чаргу адаб'ецца на сабекошце новых вырабаў. Дарэчы, у большасці заходніх краін такія законы даўно ўжо дзейнічаюць.

**— У свой час многія выданні, у тым ліку і «Звязда», нямала пісалі пра злоўжыванні прыватнікаў пры нарыхтоўцы лому каляровых металаў. Нярэдка наўмыснікі ў пагоні за лёгкай нажывай ламалі электрападстанцыі, псавалі электраабсталяванне на чыгунках. І раптам — усё сціхла. У чым прычына?**

— Сваю станоўчую ролю тут адыграў вядомы ўказ Прэзідэнта «№179 ад 5 мая 1995 года, які забараніў прыватным прадпрымальнікам збор металалому, у тым ліку і каляровых металаў. Забаранялася і рэклама для прыватных скупшчыкаў. Ліцэнзію на права нарыхтоўкі лому чорных і каляровых металаў атрымалі «Белутармет» і Белкаапсаюз. У выніку за кароткі час у гэтай справе ўдалося навесці адпаведны парадак. Мала таго, што ў некалькі разоў зменшыліся набегі на дзеючае электраабсталяванне, дык яшчэ і прыкрылі каналы ўцечкі каштоўных каляровых металаў за мяжу. Цяпер наш шлях праходзіць Расія, дзе да нядаўняга часу панавала сапраўднае бязмежжа ў пытаннях нарыхтоўкі металалому. У свой час адмена там пошлін на вываз за мяжу металалому прывяла да абвальнага раскрадання яго. Пры гэтым дзяржава была практычна пазбаўлена даходаў ад вывазу металу за межы краіны. Справа дайшла да таго, што металургі былі вымушаны звярнуцца да прэзідэнта Расіі з просьбай неяк спыніць гэта бязмежжа. Цяпер там распрацоўваецца адпаведны дакумент на дзяржаўным узроўні, які прадугледжвае ўвядзенне ліцэнзій у нарыхтоўцы металалому, выдачу квот на яго вываз за межы краіны, прыняцце індэкатыўных цэн. Дарэчы, пасля прыняцця вышэйпамянёнага ўказа нашага Прэзідэнта гэтыя прынцыпы дзейнічаюць і ў Беларусі: прадугледжана ліцэнзаванне нарыхтоўкі металалому, увядзенне квот на яго вываз.

Значна палепшылася і крымінагенная абстаноўка. Словам, тэма закрытая. А ўвогуле, паколькі метал — хлеб індустрыі, то і адносіны да яго павінны быць як да хлеба. Гэта ж стратэгічная сыравіна, важкая крыніца для папаўнення бюджэту, стабілізацыі нашай эканомікі.

**— Разам з вамі заўтра будзе адзначаць сваё прафесіянальнае свята — Дзень металурга і калектыў «Белколермета». Некалькі слоў пра работу гэтага прадпрыемства...**

— Вось ужо больш за 30 гадоў на тэрыторыі рэспублікі займаецца нарыхтоўкай і перапрацоўкай лому і адходаў каляровых металаў прадпрыемства «Белцветмет». З уваходжаннем яго ў дзяржаўнае прадпрыемства «Белутормет» яно актывізавала сваю працу па забеспячэнню пра-




мысловасці Беларусі неабходнымі сплавамі і пракатам каляровых металаў.

За апошні год у выніку перапрацоўкі нарыхтаванага лому «Белцветметам» атрымана і рэалізавана прадпрыемствам рэспублікі больш за 6000 тон пракату і сплаваў каляровых металаў, каля 7000 штук аўтамабільных і трактарных акумулятараў, вялікая колькасць іншай прадукцыі.

Разрыў традыцыйных гаспадарчых сувязей і адсутнасць у рэспубліцы арганізацый, якія б займаліся вытворчасцю і перапрацоўкай каляровых металаў, прымусіла шукаць іншыя шляхі перапрацоўкі лому і адходаў, у прыватнасці, праз укараненне каляровай мікраметалургіі на прадпрыемствах рэспублікі. Так, асвоены і знаходзяцца ў стадыі ўкаранення невялікія ліцейныя вытворчасці па пераплаву алюмінію, латуні, бронзы на прадпрыемствах у Гомелі, Гродне, Мінску, Мазыры і інш. Гэта дазваляе выпускаць там танныя ліцейныя сплавы.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**



***НА ЗДЫМКАХ:** генеральны дырэктар дзяржаўнага аб'яднання «Белутармет» Мікалай ГРЫБАНОЎСКІ; начальнік Гомельскага цэха «Белцветмета» Іван КУЗЬМІН; звыш дваццаці гадоў працуе на прадпрыемстве «Белцветмет» кантрольны майстар Вера ПЕРАВЕРЗЕВА; ідзе пагрузка шыхты каляровых металаў.*

*Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ і Сяргея ВАСІЛЬЕВА.*

# «Іду ў магазін за апошняй буханкай чорнага хлеба...»

**Менавіта такую карціну ўбачыў наш няштатны аўтар, які нядаўна пабываў на Украіне. Дакладней — у Крыме. І хоць паўвостраў лічыцца ўкраінскай тэрыторыяй, многія жыхары мараць вярнуцца пад крыло вялікай Расіі. Відаць, спадзеючыся, што гэта вызваліць іх ад цяжару і аблегчыць незайздроснае жыццё...**

Спачатку — трошкі «сухой» статыстыкі, а таксама тэндэнцый, што поўняць афіцыйныя ўкраінскія сродкі масавай інфармацыі.

Большасць пенсіянераў да пачатку ліпеня не атрымалі пенсіі не толькі за май і чэрвень, але і за сакавік-красавік.

Толькі работнікам сацкультсферы ўкраінская дзяржава запазычыла 2315,7 млрд. карбованцаў (прыблізна 13 мільёнаў долараў).

Людзям няма за што купіць нават лекі. І таму яны марна шукаюць абароны ў калідорах улады.

Педагогі, каб звесці канцы з канцамі, прадаюць марожанае, а ўрачы гандлююць на барахолках...

Паводле афіцыйных даных, Украіна ўжо пазбавілася 60 працэнтаў свайго прамысловага патэнцыялу. І аналітыкі сцвярджаюць, можа страціць і працоўную сілу.

Як гэта ні жахліва ўсведамляць, але цяпер, калі адзінкі «новых украінцаў» патанаюць у раскошы, раз'язджаючы па Канарах і Кіпрах, у тым ліку і на бюджэтныя грошы, набываючы «лімузіны», большасць людзей жыве галадна...

«Пенсію мне да гэтага часу не выплацілі — 40 працэнтаў за красавік і столькі ж за сакавік, а цяпер яшчэ і за май. А мой працоўны стаж складае 46 з паловай гадоў, — напісала ў рэдакцыю «Крымской правды» А. Тарэева з Еўпаторыі, — у іх ліку і цяжкія ваенныя гады. Няўжо цяпер не заслужыла да сябе людскіх адносінаў? 9 мая ўвесь дзень прасядзела дома, праплакала... Многія з высокіх чыноўнікаў сцвярджалі тады па радыё і тэлебачанню, пісалі ў газетах, што ўсім ветэранам Вялікай Айчыннай вайны напярэдадні слаўнага свята выплачана пенсія. Божа мой, дзе ж у гэтых людзей пасля гэтага сумленне?!

20 мая... Іду ў магазін за апошняй буханкай чорнага хлеба і паловай белага. На большае, на жаль, грошай ужо не засталося...»

Горкі ўрывак з сумнага ліста старой жанчыны як нельга лепш характарызуе цяперашні стан украінскіх пенсіянераў. У такім жа незайздросным стане апынулася і інтэлігенцыя, і сяляне. Настаўнікі, урачы, работнікі культуры і праваахоўных органаў ужо каторы месяц жывуць без зарплаты.

Запазычанасць па пенсіях за май, па сведчанню міністэрства сацабароны Украіны, склала 2,5 трлн. карбованцаў, абяцалі пагасіць на працягу чэрвеня, але цвёрдай гарантыі ў тым, што яна будзе апошняй, ніхто даць не можа. Такія ж справы і з выплатай запазычанасці па заработнай плаце.

— Мая месячная пенсія складае 4,5 млн. карбованцаў (25 долараў. — **А. Б.**), — шчыра падзялілася са мной гаспадыня, у якой мы з жонкай на тры тыдні знялі пакой. — А за кватэру, святло і газ мне ў месяц трэба плаціць тры з лішнім мільёны. Вось і мяркуйце, ці можна пражыць на мільён купонаў цэлы месяц? Ды і то яшчэ ўмудраюцца затрымліваць выплату пенсій на месяц-два.

— А колькі атрымлівае ваша дачка? — пацікавіўся ў Ганны Сяргееўны.

— Света працуе медсястрой у дзіцячым санаторыі. У месяц прыносіць 8,5 мільёна. Але толькі ў курортны сезон, а з восені зноў будзе сядзець дома без работы...

— Як жа вы жывяце?

— Толькі за кошт адпачываючых, — даволі прама адказала мая субяседніца. — За адно месца бяру ў дзень па 300 тысяч купонаў (1,5 долара).

— Але ж вам трэба плаціць за ліцэнзію, уносіць падаткі...

— Вядома, трэба, але я стараюся выкручвацца. Ліцэнзіі не бяру — вельмі дарагое задавальненне. На выручаныя грошы робім запасы на зіму, купляем неабходнае на рынку...

**Аляксей БЕЗВЯСЕЛЬНЫ.**

# ФРАНЦУЗСКАЯ МАЗАІКА

**Параўнальна нядаўна з Францыі вярнулася дэлегацыя Беларускага таварыства дружбы. У яе саставе была пісьменніца Іна Зуб. Прапануем яе нататкі**

## З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА ФРАНЦЫЯ?

Напэўна, кожная краіна, дастойная павагі і якая сама сябе паважае, пачынаецца з дарог і звычайных бытавых паслуг. Платныя альбо нацыянальныя дарогі, усе яны ідэальна роўныя, шырокія, надзвычай добрапарадкаваныя і прыгожыя, асабліва ноччу, калі пачынаюць свяціцца аранжавыя квадрацікі абмежавальнікаў.

Усё для чалавека! Кожныя дваццаць кіламетраў шыкоўныя стаянкі, дзе можна не толькі заправіць машыну, наведаць туалет, але і паесці, прыняць душ, купіць газеты ці сувеніры. І ўсюды чысціня.

Калі пад'язджаеш да маленькіх ці вялікіх гарадоў, бачыш сінія шыльды: «Формула 1». Так у Францыі называюцца недарагія гасцініцы, дзе нумар на траіх каштуе 30 долараў, альбо 10 з асобы. У невялікіх утульных пакойчыках — двух'ярусны ложак, ракавіна, туалетны столік, тэлевізар. Праўда, душ і туалет на паверсе. Але гэта не наш душ і не наш туалет. Калі вы выходзіце з кабінкі, уключаецца аўтаматычная змыўка з дэзінфекцыйным растворам і зноў — ідэальная чысціня.

Зрэшты, калі заходзіш у душ ці туалет, трэба спачатку добра агледзецца і зразумець, як працуе тая ці іншая сістэма. Ёсць, вядома, сістэмы, падобныя на нашы: націснуў кнопку — і вада палілася. А ёсць і такія, якія працуюць на фотаэлементах, калі трэба проста паднесці руку да бачка ці крана. Можна трапіць у няёмкае становішча і сутыкнуцца з «дарэвалюцыйнай» сістэмай, як гэта здарылася са мной у кітайскім рэстаране. Набраўшы з аўтамата ў далоні вадкага мыла, я ледзь не зламала самы прымітыўны кран, спрабуючы зразумець, як ён працуе. Прыйшлося зваць на дапамогу афіцыянтку. Аказалася, унізе быў прымітыўны рычаг, які трэба было адвесці ўбок.

Нашых суайчыннікаў гаспадары «Формул 1» баяцца. І не без падставы. Многія з іх мелі сумны вопыт даведацца, што такое руская «кемлівасць». Гэта, калі побач з атэлем спыняецца аўтобус, здымаецца адзін нумар, і ўсе трыццаць-сорак чалавек ходзяць бясплатна ў душ і туалет.

Дарэчы, шмат дзе ў атэлях з 18 гадзін вас сустракае камп'ютэр, уманціраваны ў сцяну, і аплата робіцца толькі па крэдытнай картцы.

## МАЁ ЖЫЛЛЁ — МАЯ КРЭПАСЦЬ

Пераважная большасць французаў імкнецца жыць ва ўласных дамах, тым больш што дзяржава на гэтыя мэты дае ім крэдыт на 20 гадоў. Таму паўсюль у Францыі вялікая колькасць маленькіх гарадкоў і пасёлкаў, у якіх ёсць усе ўмовы для камфартабельнага існавання: магазіны, бальніцы, бары, кафэ, каледжы, спартыўныя пляцоўкі і г. д.

Фёр, жыхары якога далі прытулак у сваіх сем'ях беларускаму ансамблю цымбалістаў «Ведрыца», тыповы такі гарадок. Невялікі, утульны, спакойны, з невысокімі трох-чатырохпавярховымі дамамі, якія на працягу стагоддзя то дабудоўваліся, то перабудоўваліся. Цяпер адзін дом, які цягнецца ўздоўж вуліцы метраў на 200, можа мець розную вышыню, розную форму дахаў, розныя вокны і дзверы. Ёсць, вядома, і новыя дамы, і прывабныя катэджы, якія не маюць нічога агульнага з тымі цаглянымі монстрамі, што будуюць у нас вакол Мінска. Усё там настолькі прыгожа і зроблена з такім густам, што з'яўляецца ўражанне, быццам ты ў санаторыі.

Растлумачыць звычайнаму французу, што такое аднапакаёўка ў 16,5 квадратнага метра, вельмі цяжка. Мая гаспадыня Андрэ, жанчына з дастаткам ніжэй за сярэдні, усё дапытвалася: «Гэта як мой салон?» — «Мусіць, як палавіна», — адказвала я. «А кухня?» — «Як ваша ванная». У Андрэ муж памёр, трое дзяцей выраслі і раз'ехаліся, і яна засталася адна ў трохпавярховым доме, дзе, акрамя вялізнага салона з камінам у форме рога, было яшчэ чатыры пакоі.

У Даніэль, сяброўкі Андрэ, дзеці таксама раз'ехаліся, і яна жыве з мужам у такім велізарным доме, што калі мы ўвайшлі ўнутр, дык не стрымаліся ад водгуку захаплення. Салон метраў пад пяцьдзесят складаўся з трох частак, кожная вышэй за папярэднюю на некалькі прыступкаў. Белыя сцены, шмат карцін, ніякай груваcткай мэблі, толькі невялічкі сервант, этажэркі, нізкія столікі, канапа, фатэлі. А побач з домам вялізны зялёны лужок, і ніякіх градак. Дарэчы, у Францыі ніхто не вырошчвае каля дома моркву ці бульбу. Толькі кветкі. А на лужкі выносяць сталы, раскладныя крэслы і адпачываюць.

Практычна ва ўсіх дамах падлога выкладзена кафлянымі пліткамі і дываноў амаль няма, хіба што для інтэр'еру часам ляжаць то тут, то там. Затое ва ўсіх ёсць пасудамыечныя машыны. У мэтах эканоміі вады і энергіі машыну ўключаюць толькі тады, калі яна цалкам загружана. А гэта раз у тры-чатыры дні. Папіў вады — кубак у машыну, і гэтак да бясконцасці. Калі Андрэ не было дома, мы свае кубкі мылі ўпотай вадой з-пад крана.

## КУЛІНАРНЫЯ «ПАКУТЫ»

Харчовыя магазіны ў Францыі для жанчын — сапраўдны рай. Не трэба ламаць галаву, чым накарміць сям'ю на абед ці на вячэру, не трэба ўвесь вольны час праводзіць каля «вечнага агню». Якасць прадуктаў — выключная, а выбар... Жабы, крэветкі, мідыі, вустрыцы — цяжка сказаць, што яны не ядуць.

Абед гатуюць хвілін пятнаццаць, не болей. Раніцай п'юць толькі каву ці гарбату з батонам і варэннем. Удзень абедаюць заўсёды і паўсюль пачынаюць з салаты. Салатнае лісце падаюць з арэхамі і сырам, вяндлінай, памідорамі, з воцатам і алеем ці якім-небудзь соусам.

Гатаванне другой стравы таксама асаблівых намаганняў не патрабуе: яе купляюць ужо прыгатаванай альбо амаль прыгатаванай і проста падаграюць. Потым ядуць сыр, а яго ў Францыі 400 сартоў, пасля чаго даюць йогурт і фрукты. Увечары — часцей за ўсё працёрты суп з агародніны, таксама з пакета.

Перад абедам п'юць аперытыў. Аперытывам называюць усе віны, акрамя сухіх, і лікёры. Ежу запіваюць сухім віном, а пасля могуць прапанаваць дыжэсціў (выпіўка для стрававання). Гэта каньяк, гарэлка і іншыя моцныя напіткі. Андрэ ўсё спрабавала зразумець, што такое гарэлка: аперытыў ці дыжэсціў? Мы тлумачылі, што ў нас няма традыцый аперытыва, а гарэлка — гэта і аперытыў, і дыжэсціў, і піць яе могуць цэлы дзень, з раніцы да глыбокай начы.

Нельга сказаць, што французы мала п'юць, проста яны п'юць па сваіх звычаях. І таму нашы традыцыі падліваць і піць да дна, гаварыць доўгія тосты для іх нешта накшталт экзотыкі. Але яны ім падабаюцца.

## ЗДАРОЎЕ — КЛОПАТ №1

Як і ўсюды, паміраюць французы ад старасці і зусім невылечных хвароб, таму што нават самы цяжкі насмарк можна вылечыць там за некалькі гадзін з дапамогай усяго адной таблеткі. Гэтая цуда-таблетка так мяне ўразіла, што я папрасіла паказаць мне бальніцу ў Фёры.

Бальніца, разлічаная на 500 месцаў, перажыла некалькі капітальных рамонтаў і зараз здзіўляе сваім небальнічным выглядам. Белыя сцены аформлены ярка-жоўтымі і ярка-сінімі панелямі, падлога выкладзена прыгожымі пліткамі, на сценах паўсюль карціны. Палаты аднамесныя з душам і тэлевізарам. Але больш за ўсё мяне ўразіла адсутнасць на дзвярах палат шыльдачак з нумарамі, як гэта было, напрыклад, у радзільным аддзяленні. Замест безаблічных лічбаў на дзвярах кветкі: палата ружаў, гваздзікоў, бэзу. Аддзяленні для састарэлых таксама маюць свае назвы: ялін, дубоў, хвоі.

Жыхары Фёра ганарацца сваёй бальніцай і асабліва радзільным аддзяленнем: такога няма нават у некаторых буйных гарадах. Сучасная апаратура дазваляе выявіць самыя нязначныя адхіленні падчас цяжарнасці, і таму ўскладненняў пры родах практычна няма. А пра тое, каб нанесці дзіцяці траўму ці занесці ў арганізм інфекцыю, іхнія ўрачы не чулі.

Народжанае дзіця адразу нясуць у спецыяльны пакой і кладуць у ложак з падагрэвам, каб яно не пакутавала ад рэзкай змены тэмпературы. Жанчыны раджаюць з анестэзіяй, а да родаў праходзяць псіхалагічную падрыхтоўку і спецыяльны трэнінг у басейне. Пра масціты ў Францыі таксама даўно забыліся. Зразумела, што калі для жанчын створаны такія ўмовы, яны не абмяжоўваюць сябе адным дзіцем. Большасць мае двое-трое дзяцей.

Што датычыцца іншых аддзяленняў, дык, можа, гадоў праз сто мы і прыйдзем да такога ўзроўню абсталяванасці, можа, і ў нас усе неабходныя інструменты для аперацыі левай рукі ці правай пяткі будуць ляжаць напагатове ў стэрыльных мяшочках.

Усе медыцынскія паслугі каштуюць дорага, калі вы не працуеце і не маеце страхоўкі. Таму, сапраўды, са стратай работы чалавек робіцца сацыяльна неабароненым. Але калі вы дажылі да пенсіі, старасці можаце не палохацца. Вы вольны аддаваць сваю пенсію дзяржаве і жыць у доме для састарэлых, дзе ў вас будуць добрыя ўмовы і догляд да самай смерці.

Калі ў мяне пытаюцца, ці могуць нашы людзі прызвычаіцца ў Францыі, я адказваю: «Адпачываць лепей там, а жыць — тут». Таму што не ўсё так бязвоблачна на іх гарызонце. Але самае галоўнае — гэта менталітэт, які ў нашых народаў вельмі розны. Можна падпарадкоўвацца чужым звычаям месяц, два, але на трэці абавязкова завыеш. Зрэшты, у кожным правіле ёсць выключэнні, і нехта, можа, прытрымліваецца зусім іншай думкі.

# ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

## «УВАСКРЭШАНЫ» РАДУЕЎ ПАКЛЯЎСЯ АЛАХАМ, ШТО ДЖАХАР ДУДАЕЎ ЖЫВЫ

Сакратар Савета Бяспекі Расіі Аляксандр Лебедзь сёння наведае Чачню. Нягледзячы на працяг наступлення федэральных войскаў, чачэнская апазіцыя выказала жаданне ўзнавіць мірныя перамовы з Масквой. Між тым расійскія войскі падверглі новым авіяўдарам пазіцыі чачэнскіх апалчэнцаў у некалькіх раёнах Чачні. Каля селішча Ведзяно, на поўдні Чачні, у чацвер былі знойдзены целы 10 расійскіх палонных вайскоўцаў, што былі расстраляны баевікамі. Сенсацыйны матэрыял быў паказаны 18 ліпеня па канале НТБ. Гэта была справаздача з прэс-канферэнцыі Салмана Радуева, які кіраваў аперацыяй па захопу заложнікаў у Першамайскім і лічыўся забітым. Аказалася, ён праходзіў лячэнне ў Германіі. Цікава, што «ўваскрэшаны» Радуеў пакляўся Алахам, што Джахар Дудаеў таксама жывы.

## ПАЛІТЫЧНАЯ КАР'ЕРА ДОКТАРА КАРАДЖЫЧА СКОНЧЫЛАСЯ

Прэзідэнт баснійскіх сербаў Радаван Караджыч даў зразумець, што ён збіраецца падпісаць сваю заяву аб адстаўцы і не будзе браць удзел у выбарах у Босніі. Пра гэта паведаміў па тэлебачанні пасланнік ЗША ў былой Югаславіі Рычард Холбрук пасля працяглых перамоў са Слабаданам Мілошавічам. Спадар Холбрук сказаў, што ўпамянутая заява адкрые шлях да пачатку выбараў і азначае канец палітычнай кар'еры доктара Караджыча. Цяпер Холбрук лічыць сваёй асноўнай задачай пераканаць Караджыча і Младзіча добраахвотна з'явіцца ў міжнародны трыбунал.

## БЕЛЫ ДОМ АБВЯРГАЕ ВЕРСІЮ ТЭРАКТА НА БОІНГУ-747

Амерыканскія ваенныя вадалазы працягваюць пошукі бартавых самапісцаў з Боінга-747, які пацярпеў катастрофу ў чацвер у прыбярэжных водах Нью-Йорка. У выніку катастрофы загінулі 247 чалавек. «Чорная скрыня» павінна дапамагчы вызначыць прычыны трагедыі. Белы дом абвяргае ўсе тэлефанаванні ў сродкі масавай інфармацыі, у якіх паведамляецца, што самалёт быў узарваны, і заяўляе, што пагрозы ад ісламскіх тэрарыстаў ніяк з гэтым не звязаны.

## УРАДАВЫЯ ВОЙСКІ ЦЕРПЯЦЬ ПАРАЖЭННЕ

Тамільскія сепаратысты ў Шры-Ланцы паведамляюць, што імі забіта не менш як 400 ўрадавых вайскоўцаў на паўночным усходзе краіны. Афіцыйныя ўлады ніякіх статыстычных даных не прадастаўляюць. Свае баявыя няўдачы яны тлумачаць сыходам тамільцаў ў непраходныя джунглі, дзе немагчымая пасадка верталётаў. Працягваецца інтэнсіўная перастрэлка. Карэспандэнт Бі-бі-сі паведамляе, што, паводле непацверджаных чутак, тамільскім баевікам удалося прабіцца да складоў са зброяй і зараз на іх баку з'явілася артылерыйскае ўзбраенне.

## УЗРЫЎЧАТКІ ХАПІЛА, КАБ УЗНЯЦЬ У ПАВЕТРА ВАКЗАЛ

Моцнае выбуховае прыстасаванне было выяўлена ўчора раніцай у зале чакання на чыгуначным вакзале ў Варонежы. Інцыдэнт ледзь не завяршыўся трагедыяй. У сумцы, дзе знаходзілася каля кілаграма трацілу, спрацаваў дэтанатар. Выбуху, на шчасце, не адбылося. Ад спрацаваўшай капсулы траціл толькі раскідала па падлозе залы чакання. Побач супрацоўнікі міліцыі знайшлі яшчэ адну сумку, з аналагічным змесцівам. Цяпер міліцыя правярае іншыя вакзалы і аэрапорт горада, а мясцовыя СМІ перадаюць слоўны партрэт чалавека, які пакінуў сумку з узрыўчаткай.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У аўстралійскім горадзе Перт ад сардэчнага прыступу з інтэрвалам у дзве мінуты ва ўзросце 61 года памерлі блізняты Біл і Джон Блумфілды. Смерць дагнала іх, калі яны знаходзіліся ў гарадскім казіно, назіраючы за нацыянальным чэмпіянатам па бодзібілдзінгу. Абодва працавалі ў адным рэстаране, ніколі не расставаліся, расказваюць іх суседзі, і былі падобныя на састарэлых мужа і жонку.

**«Суар».**

Ці можна ў спякоту апранаць міні-спадніцы і басаножкі? Здавалася б, што за пытанне... Аднак у Турцыі, нягледзячы на незвычайную спякоту, супрацоўніцам парламента забаронена з'яўляцца на работу ў міні-спадніцах і басаножках тыпу «саба». Гэта распараджэнне генеральнага сакратарыята менджліса можна было б звязаць з першымі вынікамі прыходу да ўлады ў Турцыі праісламскай партыі «Рэфах», калі б не адны істотныя абставіны: падобныя рашэнні прымаліся раней, праўда, мала кім выконваліся.

**«Сабах».**

Па афіцыйнай статыстыцы, колькасць ізраільскіх доўгажыхароў, якія адзначылі стогадовы юбілей, складае 400 чалавек. Прапарцыянальна агульнай колькасці грамадзян краіны гэта адзін з найбольш высокіх паказчыкаў у свеце. Праўда, у тым, што датычыцца сярэдняй працягласці жыцця, статыстыка выглядае больш сціпла, хоць яе даныя ўпаўне можна супаставіць з аналагічнымі паказчыкамі высокаразвітых краін: ізраільскія мужчыны жывуць у сярэднім 75 гадоў, жанчыны — 79.

Цікава, што рэзкі рост колькасці людзей, чый узрост пераваліў за сто, намеціўся ў апошнія 5 гадоў. Сацыёлагі сцвярджаюць, што гэта прама звязана з паляпшэннем умоў жыцця, медыцынскага абслугоўвання і харчавання.

**«Труд».**



## СТЫЛЬНЫ КУТОК

*Вы даўно жадаеце даведацца пра захапляючае жыццё сусветна вядомых топ-мадэляк, гарачыя калекцыі haute couture і pret-a-porter, творчыя пошукі прызнаных куцюр'е, пазнаёміцца з узыходзячымі зоркамі дызайну, атрымаць парады, як выглядаць шыкоўна днём і спакусліва ўвечары, і даць магчымасць выявіць сябе, а не толькі быць элементам вашага вячэрняга ўбору. Новая рубрыка «Стыльны куток» дапаможа вам у гэтым. Зазірніце ў яркі свет моды разам з намі і знайдзіце там сябе.*

# САМЫ ПАПУЛЯРНЫ ТВАР У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

**Галоўная задача мадэлі — звярнуць на сябе ўвагу. Гэтага можна дабіцца рознымі шляхамі. Напрыклад, захапляючай знешнасцю, асляпляльнай усмешкай, непаўторным многаабяцальным бляскам у вачах, неверагоднай сексуальнасцю — як працуюць вядомыя Сіндзі Кроўфард, Клаўдзія Шыфер, Крысці Тэрлінгтон. Але вось з'яўляецца Кейт Мос — вельмі худая і з ростам 167 см. Выключная з'ява ў мадэльным бізнесе (фактычна топ-мадэлькамі становяцца дзяўчаты з ростам не ніжэй 176 см)!**

— Што гэта за паўздохлае кураня? У яе крывыя ногі! Адкуль вы выкапалі гэтую «згубленую» наркаманку? Ды гэтай дзяўчыне лячыцца трэба: яна ж нічога не есць.

І ўсімі гэтымі не вельмі прыемнымі эпітэтамі добра абсыпаюць мадэльку Кейт Мос. А ёй хоць бы што: «Я ведаю, што многія людзі крытыкуюць мяне, не выбіраючы выразаў. Але я веру ва ўсё, што раблю. Што вы хочаце ад мяне, я толькі мадэлька». Кейт выканала свой абавязак: ашаламіла людзей сваім «беспрызорным» вобразам і стала заключаць шматмільённыя кантракты з сусветна вядомымі куцюр'е. Кейт Мос працуе ў рэкламных кампаніях Кельвіна Кляйна і здымаецца з групай сусветна вядомых фатографаў, сярод якіх Пітэр Ліндберг — яе любімы. Цікава, што задзірліва-халодны, безжыццёвы выгляд Кейт у канцы дзевяностых становіцца не толькі модным, але і эталонам прыгажосці.

Некаторыя сталі прымяраць імідж Кейт Мос на сабе. Мадэлька стала папулярнаю, асабліва праславілася яна за дзёрзкія фотаздымкі ў часопісах і на афішах у чым маці нарадзіла. І папулярнымі сталі рэчы, якія яна рэкламуе. Усе кінуліся купляць Obsession і худзець да мярцвячай сінявы пад вачамі. Гэтая дваццацідвухгадовая дзяўчына з вагою 46 кг і невысокім ростам зарабляе столькі грошай, колькі іншым саладжавым прыгажуням і не снілася.

Кейт Мос нарадзілася ў 1974 годзе, 16 лютага, у Кроўдане, Англія. Мадэлькай стала ў 14 гадоў, калі ў лонданскім аэрапорце яе ўбачыла Сара Дукас. З тых часоў Кейт стала працаваць у агенцтве Мэрылін. Адно толькі адрозненне можна заўважыць паміж цяперашняй Кейт Мос і загарэлай незнаёмкай, якая дзёрзка глядзела з вокладкі часопіса The Face ў 1990 годзе: пара малюсенькіх маршчынак пад яе вачамі.

Кейт прызнаецца, што больш за ўсё ў жыцці яна хацела б мець многа дзяцей, вялікую светлую хату ў прыгарадзе і... некалькі сабак. Ці збудуцца яе мары ў акружэнні каханага Джоні Дэпа, пакажа час. Але зараз гэтая эксцэнтрычная парачка крыху забаўляецца, нараджае шматлікія чуткі вакол сябе і з'яўляецца любіміцай журналістаў дзякуючы сваім бяздумным дзеянням. Дзіўна, але пакуль асобы Кейт Мос і Джоні Дэпа не былі прыкмечаны ў кулачных бойках, трансвецісцкіх прыгодах і п'яных дэбошах. Але яны маладыя, а ў жыцці топ-мадэлькі і вядомага акцёра — ці тое яшчэ будзе!

Джоні і Кейт выконвалі галоўныя ролі ў фільме Джона Уотэра «Crybaly». Здымкі далі не толькі выдатныя падставы для глыбокага знаёмства, але і дапамаглі Джоні пазбавіцца на некаторы час надакучлівага статусу ідала падлеткаў, які моцна прыклеіўся да яго пасля ўдзелу ў тэлевізійным шоу 21 Sump Street («21 Скачковая Вуліца»).

Джоні Дэп нарадзіўся на глыбокім поўдні Амерыкі, у экзатычнай Фларыдзе, Кейт Мос — на поўдні Лондана, у Кроўдане. Гэты ультрасучасны малады чалавек быў рокерам, яна ж — дзіця рэйв-культуры (хаця ў той час дзяўчына была занадта малая, каб спазнаць усе адмоўныя бакі гэтай з'явы). Ён старанна развіваў свае акцёрскія здольнасці, яна — мадэльныя. Нягледзячы на гэтую непадобнасць, саюз Кейт—Джоні перажыў два гады. «Яны проста класныя людзі — вось што ў іх аднолькавае», — гавораць іх сябры. Кейт Мос курыць. Гэта яе звычка стала прадметам спрэчкі, асабліва пасля таго, як часопіс Playboy у сакавіку 1996 года перадрукаваў некалькі старых фотаздымкаў яшчэ нікому не вядомай Кейт, дзе яна пускала тытунёвыя кольцы дыму ў паветра. Прадстаўнікі амерыканскай арганізацыі па барацьбе з ракам у інтэрв'ю для New York Daily News абвінавацілі Кейт Мос у тым, што яе модны вобраз і стыль жыцця негатыўна ўздзейнічае на моладзь. Маладыя людзі пачынаюць піць і курыць, таму што дарагая Кейт курыць і п'е. На такія папрокі мадэль звычайна адказвае: «Героі Сільвестра Сталонэ або Арнольда Шварцэнегера ў фільмах забіваюць сотні людзей, і па гэтаму выпадку людзі маўчаць. А мяне з-за курэння некаторыя асмельваюцца абвінавачваць ва ўсіх смяротных грахах і называюць дрэннай дзяўчынкай. Людзі думаюць, што калі ты мадэлька, значыць ты мадэлька ва ўсім. Ад мадэляў патрабуюць быць цацамі, але не чакаюць гэтага ад зорак року, якія могуць сабе дазволіць быць самімі сабой. Мяне часта называюць наркаманкай. Што я магу сказаць? Я ніколі не прымала тераін, не прымаю зараз і ніколі не буду».



Нядаўна Кейт Мос паспрабавала свае сілы ў якасці стыліста ў рэкламнай кампаніі яе сябра Глена Лачфарда для амерыканскай фірмы Mer-abella. Яна з уздыхам заўважае, што праца стыліста ёй больш падабаецца, але мадэлька разумее, што яна не такі ўжо добры стыліст на самай справе. У рэкламным бізнесе не прынята, каб мадэлька выказвала свае меркаванні, яна павінна без слоў выконваць тое, што ёй гавораць. Хаця Кейт Мос адзіная брытанская зорка, якая можа сапернічаць з папулярнасцю музычнай групы Oasis, большасць амерыканцаў нават не дапускаюць, што Кейт — англічанка. Прызнаюць людзі або не, але Кейт Мос застаецца сапраўднай англічанкай, чаго мала хто мог чакаць ад шалёнай дзяўчыны з Богам забытых лонданскіх кварталаў.

**Падрыхтавала Вольга БУКАНАВА па матэрыялах часопіса «The Face».**

## АРАБСКІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

На наступным тыдні зоркі не спрыяюць усім мужчынам, якія нарадзіліся пад знакам ВАДАЛЕЯ. У панядзелак ні ў якім разе не трэба займацца фінансавымі здзелкамі. Тым не менш у аўторак і пятніцу з'явіцца шанц з поспехам прыступіць да рэалізацыі новага праекта. Шчаслівая лічба — два.

РЫБЫ, пазбягайце дзейнасці ў панядзелак і аўторак. У сераду вас чакае буйная справа. А вось у суботу і нядзелю нехта, хто вас кахае, ашчасліваць сваім лёсавызначальным рашэннем. Самы спрыяльны дзень — чацвер, шчаслівая лічба — 9.

АВЕНУ зоркі настойліва раяць у панядзелак і аўторак моцна трымаць язык за зубамі і ні ў якім выпадку не раскрываць нікому сваіх сакрэтаў. Асцерагайцеся буйных грашовых затрат у сераду і чацвер. У суботу ў вас чакаецца буйная і непрыемная размова з адным з вашых сяброў. Рэалізацыі планаў чакайце ў нядзелю.

ЦЯЛЬЦУ ў панядзелак і аўторак лепш за ўсё прысвяціць сябе адпачынку і адзіноце. У любым выпадку ніякія пачынанні ў гэтыя дні не будуць мець належнага працягу. Поспех на рабоце магчымы ў сераду і чацвер. Будзьце напагатове ў нядзелю — у гэты дзень адзін з вашых сяброў паведаміць вам хлуслівую інфармацыю.

БЛІЗНЯТЫ, ваша фінансавая дзейнасць прынясе вам выгаду ў аўторак. У сераду справы пойдуць яшчэ лепш. Аднак, не спяшайцеся па інерцыі фарсіраваць падзеі ў чацвер і пятніцу. У апошні дзень тыдня вас напаткае нечаканае прыемнае знаёмства.

Удача будзе спадарожнічаць РАКУ ў панядзелак і аўторак. Серада і субота на будучым тыдні — дні вашага матэрыяльнага дабрабыту. Халасцякі змогуць найбольш удачным чынам выйсці са свайго незайздроснага стану ў чацвер і пятніцу. А вось самы спрыяльны дзень для заключэння гандлёвай здзелкі — нядзеля.

ІЛЬВА ў панядзелак чакае праверка пачуццяў на трываласць. З другога боку, гэты ж дзень — найбольш спрыяльны для здзяйснення вашых імкненняў на «любоўным фронце». З аўторка па пятніцу вам усміхнецца ўдача ў працоўнай і фінансавай дзейнасці. У суботу і нядзелю абстаноўка ў сям'і будзе блізкай да ідыліі.

Для адзінокай ДЗЕВЫ, якая марыць знайсці спадарожніка (спадарожніцу) жыцця, зоркі будуць найбольш спрыяць у гэтым усю першую палову тыдня. У панядзелак яны абяцаюць вам удачную гандлёвую здзелку, а ў сераду лепш за ўсё паехаць у падарожжа. Шчаслівая лічба — шэсць.

ШАЛЯМ у панядзелак і аўторак лепш за ўсё ўспомніць аб родных і сябрах, якія знаходзяцца далёка ад вас. У сераду і чацвер вас чакае сустрэча з нейкай важнай персонай. Нядзеля — дзень, калі вырашацца ўсе вашы фінансавыя праблемы.

СКАРПІЁНУ ў сераду трэба будзе прыняць фатальнае рашэнне, якое можа пакласці канец вашым адносінам з каханым чалавекам. У выніку ў чацвер вы будзеце знаходзіцца ў стане вялікай прыгнечанасці. А ў пятніцу вы паглядзіце на гэтую сітуацыю з пазіцыі прайграўшага спартсмена.

На будучым тыдні СТРАЛЕЦ цалкам зразумее, што жыццёвы шлях цярністы. Час задумацца аб вырашэнні сваіх праблем і не рабіць новых памылак. Шчаслівая лічба — сем.

КАЗЯРОГ на працягу ўсяго тыдня будзе паступова аднаўляць страчаную веру ў самога сябе, так што да нядзелі вы канчаткова набудзеце душэўную раўнавагу. І ўсё ж вашы справы яшчэ не цалкам стабілізуюцца. У фінансавым плане паляпшэння трэба чакаць у аўторак і сераду. Шчаслівая лічба — адзін.

**Георгій ШАЛЯНКОЎ, кар. ІТАР-ТАСС.**

*Дарагіх Міколу і Любоў ЖЫРНЭЛЕЎ з в. Гарадок са срэбным вяселлем! Здароўя, вялікага шчасця, спакою жадаем.*

*Няхай зямля вас галубіць,*
*Сонца душу вам туліць,*
*А дзеці шануюць і любяць.*

*Віктар, Валянціна, Віталь і Вікторыя Корсакі.*

Згубленае пасведчанне № 182817 серыі А, выдадзенае на імя КІПЦЭВІЧА Івана Арцёмавіча, лічыць несапраўдным.

**ПРАПАЎ САБАКА**

«Пудзель» — сука, чорны. Даверлівы да дарослых і дзяцей. Згубіўся ў Аляхновічах. Бачылі ў электрычцы на Мінск.

Пакутуюць унукі, сям'я.

Чакае ўзнагарода.

г. Мінск, Ракасоўскага, 91-95.

Тэл. дам. 247-99-62; раб. 277-08—00 (ветстанцыя з 9.00 да 17.00 Вясёлка).

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ



## КРЫЖАВАНКА

**По гарызанталях**: 1. Род папугаяў. 6. Паўднёвая дрэвападобная расліна сямейства злакавых. 9. Механізм для запуску рухавіка. 10. Буйны музычны твор. 12. Жаданне, імкненне да ч.-н. 14. Агародная кветкавая расліна. 15. Непадзельная гукавая адзінка мовы. 17. У грэчаскай міфалогіі — бог сонца, святла, мудрасці. 20. Раздзел фізікі. 25. Аб'яўленне чалавека няздольным, непрыгодным для пэўнай работы, спецыяльнасці. 28. Папулярны сорт бульбы. 30. Згода, дружба, прыязнасць. 31. Вечназялёнае хвойнае дрэва сямейства кіпарысавых. 32. Рускі народны танец. 34. Закрыццё прадпрыемства з адначасовым масавым звальненнем рабочых. 35. Дзяржава блізкага замежжа. 36. Кустовая садова-ягадная расліна. 37. Востраў у Карскім моры.

**Па вертыкалях**: 1. Раман Ф. Гладкова. 2. Ізаляцыйны матэрыял у прамысловасці. 3. Прыток Нёмана. 4. Задняя частка судна, карабля. 5. Скульптура А. Глебава. 6. Насценнае асвятляльнае прыстасаванне. 7. Навука аб раслінным свеце. 8. Горад у Архангельскай вобласці Расіі. 11. Галоўны, асноўны тон ладу. 13. Беларускі літаратурна-мастацкі часопіс. 16. Дробны гандляр харчовымі прыпасамі і прадметамі салдацкага ўжытку пры арміі ў XVIII—XIX стст. 18. Жанр тэатральнага мастацтва. 19. Атрутнае рэчыва. 21. Самы вялікі паўзун у мезазойскую эру. 22. Афіцыйная заява аб незаконных або няправільных дзеяннях якой-небудзь асобы. 23. Нізкае багністае месца. 24. Негарманічнае спалучэнне музычных гукаў, парушэнне сугучнасці. 26. Адходы лёну, канапель. 27. Шарсцяная касцюмная тканіна. 29. Гурт авечак. 30. Крышталічны парашок, які выкарыстоўваецца ў медыцыне як процізапаленчы сродак. 33. Жыллё, прыстанак, месца жыхарства (разм.). 34. Катэгорыя дзеяслова.

**Склаў Віктар СУХАРАЎ.**

г. п. Бялынічы.

## ГАЛАВАЛОМКА




Замест пытальнікаў па вонкавай акружнасці падстаўце літары з цэнтральнага круга і прачытайце вядомую народную прыказку.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

Клецкі раён.



## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка-пераклад (13 ліпеня). Па гарызанталях**: 5. Калыска. 6. Алешына. 10. Сваяк. 11. Варта. 12. Прозвішча. 15. Аловак. 16. Уклад. 17. Ланцуг. 20. Шмалец. 21. Пугаўё. 22. Квадра. 23. Бярэмя. 28. Ліпень. 29. Пасаг. 30. Рыцына. 34. Хаўруснік. 36. Пляма. 37. Бусел. 38. Цагліна. 39. Снежань. **Па вертыкалях**: 1. Альяс. 2. Скнара. 3. Следчы. 4. Жыхар. 5. Кавадла. 7. Артыкул. 8. Пазыка. 9. Слімак. 13. Ратаванне. 14. Фанабэрыя. 18. Хеўра. 19. Муляр. 24. Відэлец. 25.Шахрай. 26. Парсюк. 27. Жнівень. 31. Даніна. 32. Півоня. 33. Смага. 35. Бусак.

**Крыптаграма (13 ліпеня).** Ключавыя словы ў ёй: даспехі, мітынг, музей, архіў, Дон. Зашыфраваная прымаўка такая: «Хто за Радзіму гарой, той сапраўды герой».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4031.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12